Беларуская газэта
Naša Niva

# НАША НІВА

№ 1
травень 1991
кошт 1 рубель

Ларыса Генюш
Антон Луцкевіч
Аляксандар Уласаў

**Dva centry: Vilnia ci Miensk?**

С.Астраўцоў, Г.Сагановіч,
І.Бабкоў, С.Паўлоўскі,
А.Чобат, А.Мінкін, В.Акудовіч

**100**
тэзісаў лібэралізму

**Што здарылася?**
**Крымінальная кроніка.**

*Нашы пушчы, роднае багацьце,*
*Непралазнасьць зарасьляў, балот:*
*Партызанам ёсьць куды схавацца,*
*А куды ж схавацца народ?..*
**«Партызаны»**

**Дж.Д.Сэлінджэр**
*апавяданьне*

**Разьвітаньне з камунізмам:**
**у Чэха-Славаччыне, у Польшчы, у Вугоршчыне,**
**у беларускай літаратуры**

Эдгар По
**УЛЯЛЮМ**

*Здымак Алеся Крыштаповіча.*



*Здымак Алены Адамчык.*



*Наша Ніва* выходзіць зноў.
Людзі, якія стварылі яе ў 1906-м годзе,
разьлічвалі не на нейкі пэрыяд ці этап,
ці нейкую праграму-мінімум,
пасьля чаго трэба было б
спыніць выданьне,
але на ўсю пэрспэктыву беларускага
нацыянальнага жыцьця.
Гэты разьлік у 1915-м сарвала вайна,
пасьля — рэвалюцыя,
часы сацыялістычнага будаўніцтва.
Цяпер, калі ўсё гэта адыйшло ў нябыт
і калі спакваля зноў акрыйвае
беларускае нацыянальнае жыцьцё,
*Наша Ніва* выходзіць зноў.
Як люстэрка дзён і жаданьняў...
Больш за 70 гадоў моўкнасьці
няхай стануць для нас
не забыцьцём,
а новым, добра забытым досьведам;
не гнілымі лаўжамі,
а крэпкім сухім паленьнем у грубку
аднаўленае НН.

Мы шчыра дзякуем
за падтрымку й спрыяньне
ў падрыхтоўцы аднаўленае газэты
шаноўным Лявону Луцкевічу,
Сьцяпану Дуж-Душэўскаму,
Хведару Нюньку,
Валяньціну Стэху,
усім нашым прыхільнікам.

Палітычная навэля

## Мытыя яблыкі

*Аповяд майго школьнага сябра*

**Сяргей Астраўцоў**



Калі ў тэлеперадачах раптам пачынаюць згадваць пра памылку, дапушчаную савецкім урадам у жніўні 68-га, мой бацька пахмурнее, і позірк у яго робіцца невідушчы. Ён нічога ня кажа, але я амаль уяўляю, што ён можа ў такія хвіліны перажываць. Яму не даспадобы выказванае, і не таму, што ён ня любіць чэхаў, не. Папросту то былі часы, калі ён быў малады, бадай, як я цяпер, і паводле ўрадавага рашэньня й загаду свайго камандаваньня з тысячамі іншых апынуўся тамака — у Чэхаславаччыне. А заўсёды цяжка прызнацца самому сабе ў тым, што ты браў удзел у чымсьці цалкам натуральным і высакародным тады, але асуджаным цяпер.

Мы пад той час ужо жылі ў Нямеччыне, самы раз толькі прыехалі й не пасьпелі нават як сьлед асвойтацца з чужым, зусім незнаёмым краем. Наш дом быў на самым ускрайку вайсковай тэрыторыі. У адзін бок — за чыгункай — грудзіліся капаніры аэрадрому, зьлева, за плотам, за асфальтоўкай і яшчэ за хмызамі акацыі хавалася ў дрэвах садоў нямецкая вёска, а проста, цераз падвойную агароджу з калючага дроту, за якой пачынаўся палетак, на даляглядзе можна было ўгледзець камяніцы мястэчка, спакой якога раз-пораз парушалі чырвоназорныя зьнішчальнікі. Казалі, што за прычынены шум даводзілася плаціць добрай гатоўкай. Вартавала наш кут вышка, сапраўдная, але пустая, бо, напэўна, пасьля ад'езду калёны ня стала хапаць салдат-ахоўнікаў.

Таго дня за плотам выпрасталіся ў даўгі шнур зеленкаватыя машыны. Толькі адна была цывільнага кавамалочнага колеру, рэдкая, ужо як нават і на тыя часы, «Пабеда». У ёй ад'яжджаў мой бацька. Адразу за камбатам, нашым суседам, у «Газіку» якога побач з «бардачком» (я гэта сам бачыў) быў усталяваны вайсковы радыётэлефон з антэнай. Мацяркі ўтаймоўвалі сьлёзы, а для нас, хлапчукоў, турботная атмасфэра аддачы апошніх распараджэньняў, спробаў — дзе-нідзе ў калёне — на спраўнасьць рухавікоў была напоўненая своеасаблівай урачыстасьцю. Снаваньне веставых, палявыя муньдзіры й пісталетныя кабуры афіцэраў, жалезныя каскі на галовах узброеных салдатаў. Прычэпленыя да грузавікоў, гатовыя да далёкага маршу двуколкі палявых кухняў. І вялікая колькасьць машын-цыстэрнаў з палівам, якія лішні раз сьведчылі пра тое, што дарога чакае сапраўды няблізкая.

Калі пасьля працяглага стаяньня калёна скранулася, я міжволі, як бывае пры назіраньні руху цягніка, сам сабе пачаў падлічваць, колькі міма праяжджае машын, кожная зь якіх, цяжка наладаваная, з напругаю равучы, пакідала пасьля сябе гар спаленага бэнзыну. Думаю, што не я адзін лічыў тыя машыны. Іх ад'ехала штосьці сем-восем дзесяткаў. Да нашага

*(Працяг на стар. 10)*

# Мова гісторыі

Генадзь Сагановіч



*Здымак А.Крыштаповіча*

**Гісторыя Беларусі —**
**гэта гісторыя аб'екта ці суб'екта?**
**Кананічны, але няўдалы тэрмін**
**уводзіць нас у зман, падмяняе паняцьці.**
**Рэч вось у чым.**
**Гісторыя аб'екта - Беларусі — гэта гісторыя** *мяне*,
**убачаная й зразуметая некім іншым.**
**Гісторыя суб'екта - Беларусі — гэта** *мая* **гісторыя,**
**убачаная й зразуметая мною. Каго і чыя?..**
**Тэрмін адказвае аднолькава — Беларусі.**
**Між тым, розьніца зусім прынцыповая:**
**ці гэта** *маё* **(Беларусі) бачаньне сьвету**
**ў гістарычнай пэрспэктыве,**
**ці гэта мяне (Беларусі)** *нечае* **бачаньне**
**ў гістарычнай пэрспэктыве.**
**У другім выпадку сама пэрспэктыва**
**перакройваецца ва ўгоду таму** *некаму*.
**І тады Беларусь ужо не Беларусь,**
**а «исконно» чыесьці землі:**
**«северо-западный край» ці «kresy wschodnie»,**
**а гісторыя яе — толькі прыдатак да расейскай**
**ці польскай гісторыі.**
**Зразумела, што ўсялякае**
**суб'ектнае выяўленьне Беларусі**
**ў гісторыі ў такіх «гісторыях» замоўчваецца.**
**А мы, беларусы, на такіх «гісторыях» выхаваныя,**
**уласнай гісторыі ня ведаем.**
**Зразумеўшы гэта, пачнем раз за разам**
**узгадваць уласную** *гісторыю суб'екта*.
**Наперадзе пераацэнка гістарычных зьяваў,**
**стварэньне іншай пэрыядызацыі,**
**іншай** *мовы гісторыі*.

Што нам скажуць словы «Лівонская вайна»? Нейкая вайна ў Лівоніі? Ці з-за Лівоніі? Ці вайна, якая прыйшла зь Лівоніі? А што такое сама Лівонія?.. Вядома, кожны чытаў школьны падручнік па «Гісторыі СССР» і нават барабаніў на пяцёрку пра гэтую самую Лівонію, але наўрад ці сёньня адкажа, што гэтак называлі зямлю ліваў на беразе Рыскае затокі, а дакладней — абшары Лівонскага ордэну, які паўстаў на тых абшарах пазьней. І ўжо тым больш мала хто зьвяжа тую далёкую вайну з уласнымі продкамі, са сваім горадам і краем, зь Беларусьсю. Між тым, згаданая вайна ажно 16 гадоў накрывала Беларусь...

Чаму так адбываецца? Таму што блізкія, кроўныя зьявы названыя чужымі словамі. Можна ж і пра роднага бацьку ўбіць сабе ў галаву, што гэта чужы чалавек, злодзей, аргентынец, кабета, нарэшце. Але што мы ад гэтага набываем? Сіроцтва, дый толькі.

Яшчэ. У гістарычнай літаратуры спрэс ужываюць вызначэньне «руска-польская вайна». Гэта пра вайну 1654-1667 гадоў. З назвы вынікае, што ваявалі расейцы з палякамі. Гэтак і ўяўляюць тыя, хто чытаў падручнікі для савецкіх школаў і ВНУ (а колькі тых, што нічога не чыталі!). Між тым, вайну вялі Маскоўская дзяржава і фэдэратыўная польска-летувіска-ўкраінска-беларуская Рэч Паспалітая. Ваявалі пераважна на беларускай зямлі, пры гэтым у першыя гады маскоўскім войскам процістаялі толькі сілы Вялікага княства Літоўскага, г.зн. беларусы й летувісы. Вось вам і польска-расейская...

Далей. А далей можна бясконца множыць вядомыя прыклады з «Іванам Грозным» (хоць ён толькі ў Маскоўскай дзяржаве быў «грозный царь Иван Васильевич», а для іншых краін і народаў — люты тыран, нэрон, каранаваны маньяк. Іван Жахлівы. Ангельцы, дарэчы, так і называюць яго — Terrible), з «узьяднаньнем Беларусі з Расеяй» (хоць да канца XVIII стагодзьдзя яны ніколі не былі разам), «паўстаньнем Налівайкі» (хоць для Беларусі Налівайка быў тыповы бандыцкі атаман) ды шэрагам іншых тэрмінаў савецкай гістарыяграфіі. Усіх іх лучыць *неадпаведнасьць:* назвы не адпавядаюць тым рэальным гістарычным зьявам, учынкам і асобам, якіх мусяць азначаць.

Гісторыя, каб мець сэнс і мэту, павінна быць зразумелай, сваёй. Не чужым апісаньнем мінулага, а ўласнай самарэфлексіяй гэтага народу. Такую гісторыю мае народ, які ўсьведамляе сябе творцам, актыўным удзельнікам гісторыі, яе суб'ектам. А суб'ектнае разуменьне гісторыі адлюстроўваецца найперш у адпаведных, сваіх словах. Найперш тут гутарка не пра мову, на якой выкладаецца гісторыя (па-беларуску ці па-ангельску ці па-кітайску), а пра *мову гісторыі*.

Каб знайсьці беларускія эквіваленты чужым словам, якімі названыя зьявы беларускай гісторыі, кіравацца трэба перадусім двума прынцыпамі: 1. каб слова было зьмястоўнае і 2. каб яно ўжывалася ў помніках беларускага пісьменства. Такім чынам...

*Лівонская вайна.* Гісторыкі Беларусі пазычылі гэты назоў у расейскай гістарыяграфіі. Ім пастулюецца й адпаведная схема той вайны: цар Іван IV вёў вайну зь Лівоніяй за выхад у Балтыйскае мора, за «извечно русские» лівонскія землі, а калі ў міжбой карысьліва ўвязаўся Жыгімонт Аўгуст ды, як яшчэ пішуць, «літоўскія феадалы», — Масква нанесла ўдар і па Вялікаму княству Літоўскаму (у якім, нагадаю, «як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца», — Ф.Багушэвіч)...

Цікава, што на Беларусі пад час тае вайны наогул не ўжывалі назвы «Лівонія», «лівонскі». Прынамсі, не пісалі яе ў дакументах. Гартаючы старыя акты, бачым, што пісалі: «Ліфлянты» ці «Інфлянты». Жыгімонт Стары ў 1507 годзе пасылаў ліста «да містра Ліфлянцкага» (а вось расейскія археографы ў камэнтары да гэтага дакумента напісалі: «к магистру Ливонскому»), акты 1559 году паведамлялі пра ваенную падмогу Княства «да Ліфлянт», Мікалай Радзівіл тады быў гетманам найвышэйшым сваёй дзяржавы і «зямлі Інфлянцкае», а ў запісах 1585—1586 гадоў вызначаліся межы «княства Ліфлянцкага»... Ужо з-за гэтага нам не выпадае называць вайну «Лівонскай».

У дачыненьні Беларусі назва «Лівонская вайна» аніяк не адпавядае й гістарычнай сутнасьці зьявы. Дзеяньні супраць Вялікага княства сталі вайной у вайне. Толькі на самым пачатку канфлікту прадметам спрэчкі былі Інфлянты, а з 1563 году — Полацак. Захапіўшы Полацак і Полаччыну, царскія ваяводы 16 гадоў імкнуліся ўтрымаць здабычу. Беларуска-летувіскі бок не пераставаў думаць пра вяртаньне Полацка. Гэта засьведчылі перамовы Жыгімонта з Іванам Жахлівым. І Сьцяпан Батура зусім ня проста так пачаў новы этап вайны з вызваленьня Полацка.

Ваенныя дзеяньні на ўзьбярэжжы Рыскай затокі й вайна на Беларусі былі разьдзеленыя й стратэгічна, і геаграфічна, і па часе. Таму ўсё, што адбывалася на землях Вялікага Княства з 1562 да 1579-80 гадоў, — гэта не Лівонская й не Інфлянцкая вайна, а *Полацкая.* Менавіта з Полацкам асацыюецца тое боішча і ў сьвядомасьці сучасьнікаў.

Цяпер *«Руска-польская вайна».* Ясна, што яна ня руска-польская. Гэтым назовам старанна замаскаваная сутнасьць той незвычайнай па маштабах ды вынішчэньнях агрэсіі. Гэта была *вайна за Беларусь.* І вялася перадусім на Беларусі. Нехта ўжо прапанаваў быў называць гэтую вайну «вайной Расеі з Рэччу Паспалітай». Бліжэй да праўды, але й гэткае вызначэньне недакладнае, бо, паўтаруся, у першыя гады з Расеяй ваявалі толькі ўзброеныя сілы Вялікага Княства Літоўскага, без падмогі польскіх харугваў.

Зірнем, як называлі гэтую вайну сучасьнікі. У тагачасных беларускіх дакумантах ёсьць цікавая знаходка: там яна шматкроць згадваецца як «Маскоўская вайна». Прыкладам, у 1663 годзе зямянін з-пад Мсьціслава Ян Дзяконскі пісаў пра «наступленьне вайны Маскоўскае на краі Беларускія» і г.д.

Такія знаходкі — нацыянальныя эквіваленты для чужых, «пазычаных» ці некім навязаных тэрмінаў уласнай гісторыі — гэта вешкі, што пазначаюць свой гістарычны шлях нацыі, суб'ектнасьць яе гістарычнага існаваньня. Такім словам, асабліва калі за імі не адно стагодзьдзе, мусіць аддавацца перавага перад чужымі штампамі. Уніфікацыя гістарычнай лексікі дэзарыентуе сучасьніка.

Неяк я чуў папрок летувісам, што тыя замест «Грунвальду» кажуць «Жальгірыс». Маўляў, чаму не як усе! Але ж далёка ня ўсе кажуць «Грунвальд». Немцы, напрыклад, карыстаюцца найменьнем іншай вёскі — Танэнбэрг, бітва пад Танэнбэргам. Гэта па-першае. Па-другое, нашто летувісам паўтараць нямецкае «Grünwald», калі ў іх ужо колькі стагодзьдзяў кажуць па-свойму «Žalgiris», што ёсьць літаральным перакладам нямецкага слова ды азначае «бор», «зялёны лес».

Дарэчы, і нашыя прашчуры не штукаваліся ў вымаўленьні нямецкага *«Grünwald»*, а знайшлі свой адпаведнік чужой назьве: Дуброўна. Кроніка Быхаўца падае, што злучаныя войскі Ягайлы й Вітаўта прыйшлі «на тыя Дубровенскія палі», і *бітва* была «пад местам нямецкім *пад Дуброўнам»*. Гэтаксама Дуброўнам называе Грунвальд і летапіс 1446 году. .....Адна з рысак нашай гістарычнай непадобнасьці..

А такіх рысак — мноства. Зь іх і складаецца мова беларускай гісторыі. Беларусы самі пазнавалі прастору й час свайго існаваньня, самі асэнсоўвалі ды ацэньвалі падзеі, у іх урэшце склаўся ўласны гістарычны досьвед, свой вобраз сьвету, свая памяць, нацыянальны склад мысьленьня й характару, дух, калі хочаце. Усё гэта замацоўвалася ў мове.

Цяпер нехта зь гісторыкаў-"аб'ектывістаў" гатовы сьцьвярджаць, што пэўныя ўяўленьні й ацэнкі продкаў былі памылковыя. Няхай так. Алеж тыя «памылковыя» ўяўленьні й ацэнкі складалі сьвядомасьць людзей, кіравалі іх учынкамі, увайшлі ў зьмест гісторыі. Да таямніцы суб'ектыўнага зьместу гісторыі й вядуць перадусім ацалелыя словы.

Калі літаральна разумець думку Генрыха Бёля пра тое, што за кожным словам стаіць цэлы сьвет, дык няцяжка ўявіць, куды, ў які «сьвет» мы зайшлі.

# Сон, які сьніўся нікому

Ігар Бабкоў

Мы звычайна ўспрыймаем гісторыю й космас як каардынаты, што йснуюць аб'ектыўна, зададзеныя нам самой рэчаіснасьцю. Гісторыя для нас перадусім чалавечая гісторыя, рух цывілізацыі й культуры, які разгортваецца ў лінейным часе. Космас жа — нерухомая ў параўнаньні з чалавечай гісторыяй дэкарацыя, шаты, пад якімі мы жывем, прастора, якая ўтрымоўвае нас і дазваляе нам існаваць.

Такое разуменьне, зададзенае новаэўрапейскай навуковай карцінай сьвету, разводзіць у нашай сьвядомасьці гісторыю й космас як прынцыпова розныя й нават варожыя арыентацыі. Мы ведаем, што вялікія старажытныя цывілізацыі жылі ў космасе, мысьлілі ў цыклічным часе, у каардынатах якога гісторыя як самадастатковая зьява ня мела правоў на існаваньне. Гісторыя прыходзіць да нас як хрысьціянская гісторыя, біблейская плынь часу — Олаф — якая сканчаецца ў рэшце рэшт у эсхаталягічнай пэрспэктыве — страшным судом. Такая сакральна ўразуметая гісторыя й выцясьняе цыклічны час — космас — з культурнай сьвядомасьці народаў хрысьціянскага сьвету. Рэшткі ж «касьмічнага» сьветаадчуваньня захоўваюцца й кансэрвуюцца ў паганскіх пра-асновах культуры.

Гэтае спакойнае, культуралягічнае сутыкненьне арыентацый набывае ў гісторыі Беларусі нечакана трагічнае й пранізьлівае гучаньне. У культурнай сьвядомасьці народа адначасова гучаць дзьве мэлёдыі, два лейтматывы — магутны касьмічны харал паганства, што бярэ пачатак у пракаветныя часы й цягнецца ажно да XX стагодзьдзя, дзе заціхае сярод урбаністычных краявідаў, і — сумна-трагічны хрысьціянскі жалясьпеў, што набірае моц у XV-XVI стагодзьдзях і таксама амаль заціхае ў XX-м, у сэкулярызаванай культуры сучаснага гораду.

На тле гістарычных падзеяў гэтыя дзьве мэлёдыі гучаць па-рознаму. XVI — залатое хрысьціянскае стагодзьдзе, у якім Біблія — сьвятая гісторыя — нарэшце прамоўленая па-старабеларуску, стагодзьдзе паўнавартаснай хрысьціянскай цывілізацыі й культуры, калі душа народа рэалізуе сябе ў выдатных постацях: Скарына, Цяпінскі, Сапега... Складваліся ўсе перадумовы для ўзьнікненьня адметнай усходнеславянскай традыцыі, з самастойным і глыбокім культурным і грамадзкім жыцьцём, з праваюй і гуманістычнай арыентацыяй. Але гэты працэс быў перарваны на высокай і трагічнай ноце. Наступныя тры з паловай стагодзьдзі палянізацыі й русіфікацыі прывялі хрысьціянства да таго, што мы маем сёньня — польскі касьцёл і расейская праваслаўная царква. Самае галоўнае — за гэтыя часы хрысьціянства на Беларусі далёка адхілілася ад сваёй сутнаснай ролі, ад свайго зьместу ды пераўтварылася ў прыдатак чужых дзяржаўных машын. Хрысьціянства згубіла сваю місію і ў выніку амаль памерла для беларускай душы.

Залатыя часы паганскае, народнае культуры — XIX стагодзьдзе.

Гэта часы, калі душа народа нібы прарастае ў «высокую» культуру, нараджае такія зьявы, як Міцкевіч, Чачот, Баршчэўскі... Каб зразумець, што такое паганская культура, варта ўявіць сабе ўвесь комплекс беларускага фальклёру, прасьпяванага адначасова, як магутная касьмічная сымфонія, як гімн мікра й макракосму. Уявім сабе ўсе казкі, расказаныя ўсімі бабулямі праз усе часы, усе паданьні й легенды, усе рытуалы й галашэньні... Калі ўявіш сабе ўсю веліч гэтае сымфоніі, беларуская гісторыя бачыцца як сон, што сьніўся нікому.

Зрэшты, ён сапраўды сьніўся нікому.

Мусім прызнаць, што беларусы захаваліся як нацыя менавіта таму, што ва ўсе часы польска-расейскага гістарычнага беспрасьвецьця жылі не ў гісторыі — у Космасе.

Сёньня мы знаходзім сябе ў індустрыйнай цывілізацыі, у сэкулярызаваным, суб'ектывісцка-касмапалітычным асяродзьдзі сучаснага горада. Мы ня верым у вонкавасьць, але ж і ўнутры сябе не пачуваемся гаспадарамі. Недзе за даляглядам — Бог, ці то «памёр», ці то «на рамоньце». Перад вачыма — культура. І адзінае, што мы можам сказаць сабе ў суцяшэньне:

ЯНЫ СЬПЯВАЛі — МЫ СЛУХАЕМ.

# Героі й ахвяры

Сяргей Паўлоўскі

**Пачынаючы тэму мінулай вайны,
я сапраўды пачынаю.
Не працягваю,
не пачуваюся разгубленым,
маўляў, ужо ўсё ці амаль усё сказана.
Простая лёгіка дапамагае мне:
скрайнасьці заўсёды злучаюцца.
Таму, сказаўшы «ўсё ці амаль усё»,
у кантэксьце мы абавязкова пачуем:
«нічога ці амаль нічога»...
І сказаўшы пра два бакі ў той вайне,
мы проста не паверым сабе —
так не бывае.
І сказаўшы пра беларускі народ,
як пра героя й ахвяру вайны,
мы раптам зразумеем, што аб'яднаныя
ў вадным слове гэтыя два паняцьці
рашуча не аб'ядноўваюцца,
канфліктуюць,
адштурхоўваюцца адно ад аднога.
І тады «ўсё ці амаль усё»,
гадамі будаванае на схеме:
свае й чужыя; нашы й немцы;
героі-ахвяры й ворагі-здраднікі,
развальваецца ў нішто
(ці амаль нішто)...
А ў вас ніколі не было такога
адчуваньня,
што пры ўсім аб'ёме ведаў пра вайну
вы ня ведаеце пра яе нічога?
Напрыклад, пра партызанаў?**

Беларусь пачынаецца з вайны. Першы ўбачаны беларускі чалавек — вэтэран ці ўдзельнік, чалавек, сям'ю якога не абмінула вайна. Першы ўбачаны беларускі помнік, эмблема рэспублікі й горада — помнік вайне. Першая беларуская кніжка й першы беларускі фільм — пра вайну. Першае нацыянальнае сьвята, першы ўрок, першая дзіцячая гульня... Сама гісторыя Беларусі пачынаецца зь мінулай вайны. З айчыннай вайны савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З другой сусьветнай... Кожны народ вынес зь яе свае сымбалі героікі й трагізму. Для Беларусі яны сталі нацыянальнымі сымболямі веры. Партызанка й Хатынь. У гэтых сымболях беларусы пачуваюцца самі сабою, як ні ў чым іншым. Гэта — суб'ект нацыі...

Было, праўда, і раней, гінулі — і кожны чацьверты, і трэйці, і кожны другі. Ад Вялікага княства Маскоўскага, напрыклад. Былі й партызаны — у 1920-х, у 1863-м, у 1794-м... Але пра тое мала хто ведае. Дакладней, беларусы пакуль яшчэ ня хочуць пра тое ведаць. Шмат там яшчэ незразумелага, няяснага. А тут — напрацаванае, ачышчанае, адназначнае — рэйкавая вайна і Хатынь. Вось мы — героі, і вось мы — ахвяры.

Тое, што гэтыя дзьве іпастасі аднаго «мы» — героі й ахвяры — не спалучаюцца, не перасякаюцца, не становяцца нават побач — прымусіла задумацца літаральна ў апошнія гады.

Першым знакам сталася якраз Хатынь. Вёску разам зь людзямі спалілі ня немцы, а ўкраінскі паліцэйскі батальлён. Як быццам нічога дзіўнага. Фашысты й фашысты, хоць і ня немцы. Але разам з гэтым фактам у друк трапілі дэталі Хатынскай аповесьці... На дарозе каля вёскі савецкія партызаны правялі акцыю — забілі нямецкага афіцэра, Гітлеравага любімчыка. Забілі й схаваліся ў лесе. Таксама, як быццам, зразумелая сітуацыя. Калі толькі ня зьвязваць лёсы герояў і ахвяраў. Калі ня думаць пра цану жыцьця таго афіцэра, пра цану геройства — Хатынь.

Яшчэ тады, у вайну, і пасьля вайны, пра гэтую цану думала ў сваіх вершах Ларыса Геніюш. І, можа быць, толькі яна... Верш паэткі «Партызаны» ў гэтым нумары Нашае Нівы друкуецца ўпершыню. Спадзяюся, ён не шакіруе вас. У ім яшчэ ня ўся праўда.

Нашмат больш жудасны факт, жудасны для агульнага чорна-белага ўяўленьня пра вайну, апублікаваў Янка Брыль. Пра яшчэ адну хатынь, беларускую вёску, спаленую, зьнішчаную разам зь людзьмі. Брыль прывёў сьведчаньне жанчыны, якой удалося ўцячы ад сьмерці. Вёску палілі савецкія партызаны.

Безумоўна, у партызанах былі розныя людзі. Вельмі выразна сьведчыць пра тое ліст, які наша рэдакцыя атрымала ад Міхася Пятровіча з Горадні. Лёс, варты сваёй аповесьці...

*«Нарадзіўся я ў Чэрыкаве. Была ў нас сям'я: бацька, маці й старэйшая сястра. У ліпені 1937 г. арыштавалі бацьку, у лютым 1937 г. яго расстралялі ў Вархангельску па прыгавору тройкі. У ліпені 1944 г. у вёсцы Прудзішчы Лагойскага р-ну камандзір партызанскага атраду Захараў У.Д. расстраляў маю маці й сястру. Я застаўся сіратою й сынам ворага народа».*

Пра абставіны таго ваеннага здарэньня М.Пятровіч піша:

*«У часе вайны мы жылі ў в. Раманаўка Менскага р-ну. У маі 1943 г. партызаны разьбілі ў нашай вёсцы нямецкі гарнізон. Вёску спалілі. Мы апынуліся ў партызанскай "зоне" Лагойскага р-ну. Я пайшоў у партызаны, а маці й сястра жабравалі па вёсках, дзе знаходзілі прытулак, там і жылі. Апошнім прытулкам іх была вёска Прудзішчы. П'яны Захараў У.Д., як потым высьветлілася, прыняў маці й сястру за нямецкіх шпіёнаў. Два стрэлы з камандзірскага маўзэра... Да гэтага на ягоным рахунку было нямала такіх ахвяраў.*

*Пасьля 20-га зьезду КПСС я напісаў скаргу ў Маскву й патрабаваў прыцягнуць Захарава да адказнасьці. У жніўні 1956 г. мяне выклікалі ў Менск у абллпракуратуру ў якасьці сьведкі. У той час была ўжо заведзена крымінальная справа на Захарава, займаўся ёй сьледчы Сакольчык М.К. Ён мне сказаў, што будзе ставіць пытаньне, каб Захарава «шлёпнулі», а мне — каб чакаў позвы ў суд. Я чакаў год. Пасьля зноў прыехаў у Менск. Захарава ніхто не зьбіраўся судзіць, ня тое што «шлёпаць». Ён па-ранейшаму працаваў дырэктарам сьпіртзаводу ў Дзяржынску Менскае вобласьці. Сакольчык ужо ў абллпракуратуры не працаваў, справу перадалі ў вайсковую пракуратуру БВА. Ваенны пракурор, генэрал, з ухмылкай прыняў мяне й паведаміў, што судзіць Захарава У.Д. «не представляется возможным», бо прайшоў тэрмін даўнасьці (10 гадоў)...*

*Празь некалькі гадоў, 12 студзеня 1979 г., галоўная пракуратура, што знаходзіцца ў Маскве, паведаміла мне наступнае: «В связи с вашей жалобой от 20 октября 1978 г., адресованной в ЦК КПСС, в главной военной прокуратуре проверено уголовное дело в отношении гр-на Захарова В.Д. Установлено, что последний в июле 1944 г. действительно застрелил вашу мать и сестру, хотя никаких компрометирующих материалов в отношении их не было. Этими действиями он совершил преступление. Однако с учетом того, что с момента совершения преступления и до 1959 г. прошло 15 лет, дело в отношении Захарова В.Д. 28 января 1959 г. было прекращено». Далей паведамлялася, што Захараў У.Д. у 1970-м годзе памёр».*

«Канфлікт» герояў і ахвяраў працягнуўся на пасьляваенны час. Дзьве аднолькава зараджаныя прапагандай часьціцы аднаго народа ўзаемна адштурхоўваюцца адна ад адной. Але й тое, што сказана вышэй, — далёка ня ўся праўда пра мінулую вайну, пра партызанку. Усплываюць усё новыя факты, незразумелыя й абсурдныя...

Пінчук А.Дуброўскі апублікаваў у *Пінскім весніку* дасьледваньне «Замучаныя ў засьценках НКВД». Пра тое, як у Пінску ў канцы чэрвеня 1941 г. зьнішчалі людзей чэкісты. У будынку езуіцкага калегіюма на першым паверсе «судзілі», а пасьля ў падвалах душылі. Каб ціха. Вывозілі за горад і закопвалі... Неўзабаве прыйшлі немцы. Немцы рабілі эксгумацыі тых сьвежых перадваенных магілаў. А людзі пасьля эксгумацыі паставілі на магіле землякоў помнік. «Тут былі замардаваныя камуністамі 53 ахвяры»... Дык вось, партызаны, савецкія партызаны, праводзілі акцыю па зьнішчэньні гэтага помніка...

Я думаю пра тое, ці не падхліснулі немцаў на зьверствы тыя эксгумацыі ў першыя дні вайны. Акупанты йшлі захопліваць чужую зямлю, нішчыць чужыя гарады й вёскі, забіваць бязь літасьці чужых людзей. Ішлі з «разьвязанымі рукамі», вызваленыя ад маралі... А тут — ямы забітых людзей. Сваімі — сваіх. Мужчыны, кабеты, дзеці... Ні за што. Проста так. Людажэрскі край... Не скажу пра ўсіх, але для многіх немцаў гэтыя яміны, напэўна, былі адкрыцьцём. Многім яшчэ трэба было пераступіць у сабе бар'ер — забіць чалавека, забіць жанчыну, забіць дзіця. А тут яны ўбачылі край, дзе між агульнапрынятых нормаў існаваньня людзей такога бар'еру проста не было, дзе нормай было якраз забіваць — сотні й тысячы землякоў, дзе нормай былі бяздонныя яміны трупаў у ваколіцах кожнага паселішча... Урэшце, усе мэтады катаў НКВД — канцлягеры, масавыя расстрэлы, вялізныя яміны, прыкрытыя яловымі голькамі — без асаблівых зьменаў перайшлі ў спадчыну да фашыстоўцаў.

Адзін пісьменьнік, колішні савецкі партызан, заўважыў нядаўна, што праўда пра мінулую вайну павінна належаць толькі «нам», тым, хто ваяваў «па гэты бок». Пісьменьнік меў на ўвазе савецкіх партызанаў... А гітлераўскія салдаты былі перакананыя, што Бог на іхнім баку. Толькі на іхнім... Gott mit uns. З намі Бог...

Цяпер, праз 50 гадоў, усё выглядае йнакш. І ўрачыстыя клічнікі на вачох ператвараюцца ў пытальнікі: на чыім баку праўда мінулай вайны? З кім быў Бог? Ці магчыма ўвогуле адказаць на гэтыя пытаньні? Калі забойства можа быць адмаўленьнем у маральнасьці канкрэтнаму чалавеку-забойцу, дык што рабіць з арміямі, узброенымі атрадамі, падпольшчыкамі, якія ідуць на заданьне «обезвредить»? Яны забілі й загінулі як героі, а сумарным вынікам іхняй акцыі сталася зьнішчэньне адной ці пяці вёсак... Ці слушна загінулі тыя героі і ці вінаватыя яны ў сьмерці вяскоўцаў?

Адказ на гэтыя пытаньні можна сабе ўявіць. Яго падказвае нам і верш Ларысы Геніюш. Праўда і Бог былі на баку тых, чыя дзейнасьць прыводзіла не да зьнішчэньня, але да выратаваньня людзей. Магчыма, яны былі калябарантамі — дзейнічалі ў структурах арганізаванай Бэрлінам акупацыі ці арганізаванага Масквой супраціву, але пры гэтым самі адказвалі й адказваюць за свае ўчынкі, вышэй за інтарэсы Гітлера й Сталіна, за любыя іншыя інтарэсы, у тым ліку й асабістыя, ставілі й ставяць жыцьцё гэтых самых хатынскіх сялянаў. Крытэрый геройства — недапушчэньне ахвяраў.

І неістотна, як яны жылі, як апраналіся, што рабілі, з кім «супрацоўнічалі», на якой мове гаварылі, каму намінальна падпарадкоўваліся. Яны ратавалі людзей, тых канкрэтных беларускіх цётак, дзяцей, дзядоў, у чыіх жыцьцях і сьмерцях шукалі сваю выгаду творцы тагачаснае геапалітыкі. Яны — выратоўцы, невядомыя героі, яны разам са сваімі ахвярамі. Мая сьвядомасьць не падзяляе іх, не разводзіць у розныя бакі.

Яшчэ не названыя ўсе ахвяры.

Яшчэ не названыя ўсе героі.

# Партызаны

Ларыса Геніюш



*Здымак з архіву.*

**Як запомню войны і пажары —
Усё набоішчам мая зямля,
Колькі раз па ёй, бы лівень з хмараў,
Кроў чужая і свая плыла.
Продак мой, спыняючы нашэсьце,
Кідаўся на ворага зь мячом,
Толькі б не цярпелі сем'і, дзеці,
За плячыма захаваўся дом!
І стаялі насьмерць, ўсенародна
Супраць недругаў суровых і ліхіх.
І не пакідалі безбаронных,
Ворагаў наклікаўшы на іх.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Партызаны ж, тыя партызаны,
Што ім сёлы, боль і енк людзкі,
Толькі б мосьцік недзе быў ўзарваны,
Ды зьляцелі з рэйкаў цягнікі.
Што для іх адкрытыя магілы,
Гдзе за рэйкі кідалі дзяцей,
Не, дзяцей яны не баранілі,
Солтыса забіць куды прасьцей.
Солтыса, які акручваў немца,
Каб ад згубы ратаваць сяло,
Бо куды ж было народу дзецца,
Помачы адкуль чакаць было?
Нашы пушчы, роднае багацьце,
Непралазнасьць зарасьляў, балот:
Партызанам ёсьць куды схавацца,
А куды ж схавацца народ?
А куды схаваюцца мільёны
У кінутай нашэсьцю старане,
Дзеці ў гэтых сёлах безбаронных,
Калі ўсе мужчыны на вайне?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Пішуць вершы, повясьці, раманы,
Усё ж няма там ні слаўца нігдзе,
Каб грудзьмі стаялі партызаны
За расстраляных, за паленых людзей!
То ня подзьвіг баявы і сьмелы,
Толькі брэх сабачы і пусты,
Наклікаць на сёлы сьмерць умелі,
А самыя шпарылі ў кусты!
Выстаўлялі немаўлят пад стрэлы
І слабых жанчын пад кулямёт,
Ім за рэйкі дык душа балела,
Не балела толькі за народ.
Жаль народны, што ня знае меры,
Дым з абпаленых, загубленых касьцей,
Партызаны горшыя, як зьверы,
Зьвер так ворагу ня кідае дзяцей.
А пакуль ёсьць кіпцюры і зубы,
Засланяе ён малых сабой,
Не бяжыць ў сасоньнік ад загубы,
А ў няроўны кідаецца бой!
Нават тая птушачка малая
Люта скача зьлыдням да вачэй.
У горы птушанят не пакідае,
Лепей згіне ля сваіх дзяцей.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хваляцца, каго яны забілі,
Ці празь іх загінула дарма.
А каго яны абаранілі?
Гэткіх на уліку ў іх няма.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Йшлі інструкцыі ў вадным напрамку,
Палымнела Беларусь адна,
А чаму ж не падымалі партызанкі
На Каўказе ці каля Арла?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Аднаго забілі часам гада,
І, забіўшы, зайцамі ўцяклі,
А за гада сотні леглі радам
Безбаронных жыхароў зямлі.
І няўцям да сёньня той Мазанік,
Як лілася ў Менску наша кроў,
Не, не партызан, не партызанак,
А ў мучэньнях выжыўшых сыноў.
Калі судзіш ворага за згубу,
Першым чынам засланяй сваіх.
Эх, Мазанік, за аднога Кубэ
Колькі нашых брацьцяў нежывых...
Ці яны ўначы табе ня сьняцца,
Тысячаў замучаных ня жаль?
Што ж табе, Мазанік, нашы брацьця,
Для цябе галоўнае — мэдаль...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Край мой любы, жытні і курганны,
На няласцы нелюдзяў чужых,
І калі мне кажуць: партызаны,
Жудасна мне робіцца ад іх.**

# Ад рэдакцыі

Калі мы рэгістравалі адноўленую *Нашу Ніву* ў Менску, старшыня Дзяржкамдруку БССР прапанаваў нам добра падумаць і, магчыма, адмовіцца ад гэтай задумы. Маўляў, ёсьць меркаваньне Н.Гілевіча й «ня толькі яго», што ня варта кранаць сьвятыню. *Наша Ніва* — помнік занадта значны, каб зараз нехта... Словам, трэба падумаць.

І мы думаем. Мы глядзім, як аднаўляюць старыя храмы-сьвятыні, што яшчэ ўчора былі складамі, цэхамі ці музэямі. Іх аднаўляюць як храмы, у найбольш першасным выглядзе. Заўтра сюды прыйдзе новы малады сьвятар, тут прыхіляць калені новыя людзі — з новым сваім клопатам, з новымі думкамі, у іншым адзеньні. Але ж прывядзе іх у храм тое, што прыводзіла спрадвеку...

Зрэшты, *Наша Ніва* — ня храм, не сьвятыня й нават ня помнік. Мэты, якія ставілі нашаніўцы пачатку стагодзьдзя, пачынаючы выданьне газэты, — ня зьдзейсьненыя. А чаго варты помнік недаробленай справе? Гэта помнік, па сутнасьці, гаспадарчаму, культурнаму, нацыянальнаму заняпаду Беларусі апошніх 70-ці гадоў. Ня дзіва, што *Наша Ніва* 1910-х гадоў выглядае сёньня зусім актуальна.Ператвараючы карысны досьвед сваіх папярэднікаў у шанаваны мэмарыял, мы, як казаў Альбэр Камю, надаем ускосную хвалу заняпаду і ўласнай бясплёднасьці.

*Наша Ніва* — гэта якраз досьвед, газэта, сродак масавае інфармацыі з удалай журналісцкай канцэпцыяй, рубрыкацыяй, сеткай. Усё гэта, аднойчы вынайдзенае, павінна працаваць — эфэктыўна й годна. Прынцыпы, знойдзеныя братамі Луцкевічамі ды А.Уласавым — выйгрышныя, але зусім не скарыстаныя ў сёньняшняй газэтнай сытуацыі. І што ж, пакінуць гэта ў закансэрваваным «надмагільным», хай сабе й пазалочаным выглядзе?..

Больш за год мы перабіралі канцэпцыі для адноўленае НН, пакуль не прыйшлі да той, падпісанай рэдактарам Уласавым, газэты. Галоўны падмурковы камень яе — не апэратыўнасьць ды інфармацыйнасьць, не сэнсацыі ды штось «смажанае», не аб'ектыўнасьць і плюралізм. Усё гэта, урэшце рэшт, рэчы «выходныя», а не «зыходныя», яны характарызуюць вынік, а не задачу. Уласаўская газэта цікавая тым, чым цікавае *асабістае*. Ведаеце показку? Сям'я глядзіць праграму «Время», заходзіць бацька й кажа:

— Ну, што там у нас у Ліване?..

Рэпарцёр, палітоляг, гісторык распавядаюць не пра тое, якая сытуацыя ёсьць «на самой справе», а пра тое, якой яны яе сабе ўяўляюць. Газэта ўяўленьняў. І нам ужо цікава «пра Ліван», бо найперш цікавы той, хто распавядае. Суб'ектыўнае бачаньне й адчуваньне людзей, сабранае ў вадным выданьні — гэта й ёсьць нацыянальны сьветапогляд. Газэта мусіць быць люстэркам суб'екта Беларусі — у гісторыі, палітыцы, культуры, гаспадарцы, ва ўсім, «жывым люстрам жаданьняў і патрэбаў беларускага народу».

Людзкасьць — прызабыты прынцып колішняй НН. Распачатая ў Вільні ў 1906-м годзе, яна была спыненая ў 1915-м. Вайна. У 1916-18-м заснавальнікі НН працягвалі сваю выдавецкую дзейнасьць — газэта называлася *Гоман*. У 1920-м зноў зьявілася *Наша Ніва*. Выйшла ўсяго некалькі нумароў, але яны далі нам погляд творцаў НН на рэвалюцыю й сацыялістычнае будаўніцтва, пазыцыю газэты ў новым — у нашым часе.

Наступныя 70 гадоў як толькі не абзывалі Нашу Ніву. Пракуроры ад прапаганды бачылі ў ёй ворган партыі кулакоў, буржуазна-нацыяналістычны голас, адвакаты — лапатна-радыкалісцкую рэвалюцыянэрку. Ярлыкі падбіраліся яўна ня з той сыстэмы каадрынат. Газэта была людзкая.

Усё быццам бы проста. Мы з вамі найбольш адэкватныя гэтаму жыцьцю як беларусы і, як беларусы, найпаўней выяўляем сваю чалавечнасьць. Гэта ўсё. Гэта ўся НН старая і, калі здолеем, — новая.

Пра старую яшчэ мяркуюць часам, як пра папулісцкую, дзе ўсё спрашчалася, каб «народ зразумеў». Але гэта, мусіць, не папулізм, а прафэсыяналізм. Умей пра складанае сказаць проста (ня спрошчана). Зрэшты, такое ўменьне ў старой НН забясьпечвалася багатай поштай, допісамі чытачоў пра тое, што здарылася ці падумалася, пра ўсё цікавае. І сёньня, пакуль мы не разжывемся на такую вялікую й багатую пошту зь Беларусі і ўсяго сьвету, нас будзе крыху зносіць у адваротны бок, у «інтэлектуалізм». Але досьвед паказвае, што гэта толькі напачатку.

НН — газэта публікі й для публікі. Наш адрасат, наша ніва, наша «сацыяльная база» — людзі, якія маюць звычку абдумваць жыцьцёвыя сытуацыі, маюць смак да лёгкі й прыгожства мовы, маюць прагу да жыцьця. Гэткім людзям мы абяцаем у кожным нумары — маленькае асабістае сьвята.

## З нашага жыцьця

**Вільня.** 18 траўня на могілках Роса пры перазахаваньні праху Івана Луцкевіча было багата гасьцей зь Беларусі і з-за межаў. Мабыць сабраліся яны ня толькі з павагі ды цікавасьці да асобы пачынальніка беларушчыны XX стагодзьдзя, але й каб падкрэсьліць значнасьць падзеі.

Іван Луцкевіч — арганізатар беларускага нацыянальнага жыцьця — друку, школаў, музэя, палітычных структураў. Ён памёр ад сухотаў у 1919-м годзе ў польскім горадзе Закапанэ. Наступныя паўстагодзьдзя ягонае імя ці чарніла, ці замоўчвала афіцыёзная прапаганда. Разам з цэлай кагортай сваіх паплечнікаў ён трапіў у няласку да савецкай ідэалёгіі якраз у тыя часы, калі ствараўся пантэон беларускіх дзеячоў, паэтаў, герояў — усіх геніяльных і вялікіх. Сёньня часы кананізацыі прайшлі, і Луцкевіч з паплечнікамі засталіся без стэрэатыпаў. Гэтая абставіна відавочна не задавальняе сучасьнікаў, якія насуперак часу імкнуцца ўсё ж кананізаваць Луцкевіча. У выніку не атрымліваецца ні тае кананізацыі, ні бліжэйшага разуменьня асобы пачынальніка. Вось чаму пры ўсёй урачыстасьці ані прамовы на новай магіле, ані грунтоўны рэфэрат Анатоля Сідарэвіча не далі зразумелага адказу на пытаньне — хто ж такі І.Луцкевіч, і хто ён такі для нас. Іншы час патрабуе іншага, не фундамэнталісцкага падыходу.

Кабета-летувіска, якая выпадкова апынулася ля беларускага мерапрыемства, спытала: «А што, Луцкевіч — гэта ў беларусаў самы галоўны?» Хто ж такі Іван Луцкевіч?

*Ён і работнік грамадзянскі,*
*Мужыцкі пан і служка панскі,*
*І антыквар і археоляг,*
*І бібліёляг і філёляг,*
*І быў бы слаўны ён зусім,*
*Каб быў чым-колечы адным,* —

пісаў у іранічнай эпіграме на І.Луцкевіча Янка Купала. Ён сапраўды быў усім, і ва ўсім дамогся выніку. Прагматычны інсьпіратар, тэхноляг беларушчыны, прадусар. Ці ня гэтак жа прагматычна мусяць глядзець на яго сучасьнікі? Луцкевіч — не вялікі, а рацыянальны беларускі дзеяч. Работнік. Лепшая памяць пра яго — адкрыцьцё беларускае школы, Віленскага беларускага музэю, *Нашае Нівы*...

Дзень перазахаваньня запомніўся кожнаму сваім. Чароўна сьпяваў камэрны хор «Унія», у Віленскай катэдры прамаўляў сваю гарачую казань ксёнз Уладыслаў Чарняўскі... Кранальны абразок: сацыял-дэмакрат А.Сідарэвіч у часе імшы стаіць на абедзьвюх каленках... Запомніцца таксама пасьпешлівасьць, зь якой госьці пакідалі Вільню проста з урачыстага канцэрта, нібы ўцякалі... І быў цудоўны сонечны дзень.

*С.Д.*

**Кохтла-Ярвс.** Сёлета эстонскія беларусы адзначылі Дзень незалежнасьці Беларусі ў мястэчку Курамяэ. Тут у Пюхцінскім манастыры на могілках знаходзіцца магіла беларускіх жаўнераў генэрала С.Булак-Балаховіча, палеглых у 1918-1920гг. Эстонскія беларусы ўсклалі да магілы вянок і прайшлі ля яе пад нацыянальным сьцягам.

*Р.Ш.*

**Горадня.** «Падарожжа на крэсы» — пад гэткай рубрыкай варшаўская тэлевізія апошнім часам падае дакумантальныя стужкі з колішніх крэсаў. Нядаўна апавядалася пра Мерачоўшчыну й Ружаны. Зьмест: польскі сантымэнт, адраджэньне пальшчызны, каталіцтва — польская вера.

А яшчэ зараз у гарадзенцах абудзіўся паломніцкі дух. 40 групаў па 60 чалавек (ці наадварот) зьбіраюцца ў Беласток, куды на пачатку чэрвеня маецца прыехаць Папа Рымскі. І дарма палохалі будучых пілігрымаў, што будзе асабістае субяседваньне з ксянзом. Ксянзоў мала й яны ня могуць разарвацца. Так што, паедуць усе, хто запісаўся. Як той казаў, і магамэтанін, і юдэй, і расеец. Сёньня яны ўсе толькі й заклапочаныя, што пошукам гарэлкі, дрылек etc. Не з пустымі ж рукамі ехаць...

*Крэсавяк.*

**Алма-Ата.** Тут адбыўся зьезд прадстаўнікоў усіх беларускіх асяродкаў Казахстану. Былі дэлегаты з калгасаў «Беларусь», «Менскі» ды іншых вытворчасьцяў і ўстановаў, выдаўцы газэты *Рокаш*, а таксама народныя дэпутаты, у тым ліку — шасьцёра дэпутатаў-беларусаў зь Вярхоўнага Савету рэспублікі. На зьезьдзе створаны Беларускі культурны цэнтар у Казахстане, за старшыню абралі рэктара Алма-Ацінскага архітэктурна-будаўнічага інстытуту Паўла Атрушкевіча, за адказанага сакратара — Яўгена Майсейчыка. Адрас новага культурнага цэнтру: 480123, Алма-Ата, а/с 0. Казахстанскія беларусы просяць дасылаць ім кніжкі для стварэньня рэспубліканскай беларускай бібліятэкі. Усяго ў Казахстане жыве каля 180 тысяч беларусаў.

*А.Г.*

## З друку

### Андрэй Цялькоўскі пра становішча на Беларусі

Віленская *Республика* надрукавала гутарку з дэпутатам Менскага гарадзкога савету А.Цялькоўскім. На пытаньне «чаму ўсплёск незадаволенасьці адбыўся менавіта на Беларусі, у ціхім «чырвоным» запаведніку?» Цялькоўскі адказаў:

— У палітыцы ёсьць такі эфэкт «скараваркі». Усярэдзіне кіпіць, а вонкі не выходзіць. Таму здаецца, што ўсярэдзіне ўсё ціха й спакойна. На самай справе там вельмі высокі ціск. У расейскім катле зараз тэмпература значна ніжэйшая. У нас — дайшла да крытычнае адзнакі. Беларусь занадта доўга смажылі на малым агні. Не было ніякіх дэмакратычных клапанаў ані для рабочага руху, ані для дэмакратычнай альтэрнатывы... І нарэшце гэтая стыхійная маса незадаволенасьці вылілася на вуліцы. Рабочыя ў першую чаргу патрабуюць ужо не каўбасы, а свабоды ад некампэтэнтнага дыктату. І галоўнае: хочуць зьліквідаваць ня сьледзтва, а прычыну — палітычную сыстэму... Апошняя крыга сацыялізму ў Эўропе пачала таяць. У кожным разе гэта вясна. Нават калі за ёй будуць прымаразкі, што таксама характэрна для вясны. Нішто так не яднае апазыцыю, як увядзеньне ваеннага становішча (на што спадзяецца ЦК КПБ).

— Чым можа пагражаць бліжэйшым суседзям Беларусі параза беларускай стачкі?

— Пачнецца актыўная эканамічная блякада, ізаляцыя. Магчымае вылучэньне беларускім урадам тэрытарыяльных прэтэнзый з галоўнай мэтай задушэньня незалежных дзяржаваў (у прыватнасьці на Віленскі край Летувы). Таму калі з агульнага фактару геапалітыкі заходняга рэгіёну зьнікне беларуская фарба — будзе вельмі цяжка для ўсёй дэмакратыі, — сказаў А.Цялькоўскі.

### Пра беларускі нацыяналізм

Парыская *Kultura*, распавядаючы пра імкненьні палякаў Віленшчыны, піша: адныя зь іх падтрымліваюць незалежнасьць Летувы, другія думаюць пра далучэньне Віленшчыны да Польшчы. «Некаторыя мяркуюць, што можа зьявіцца новая самастойная дзяржава з паяднаных абшараў Летувы й Беларусі, заселеных палякамі... Тыя ж, хто хоча зьвязацца зь Беларусьсю, павінны памятаць, што беларускі нацыяналізм толькі нараджаецца й яшчэ здолее заліць сала за скуру палякам, спробы чаго зьявіліся апошнім часам...» — цытуе *Kultura* польскі *Przegląd Powszechny*.

### Горад пад псэўданімам

17 чэрвеня ў Ленінградзе адбудзецца рэфэрэндум наконт вяртаньня гэтаму гораду колішняе назвы — Санкт-Петэрбург. Газэта *Московские новости* са спасылкай на ленінградзкі *Литератор* паведаміла, што зараз горад носіць імя калежскага сакратара Мікалая Ягоравіча Леніна (1827-1900). Дачка гэтага Леніна, знаёмая з Надзеяй Крупскай, намовіла двух сваіх братоў скрасьці пашпарт у бацькі, які паміраў. Маўляў, «як памешчыка яго пахаваюць і бяз пашпарта. А мы дапаможам чалавеку».

Гэтым чалавекам быў У.І.Ульянаў. З 1901 году «Н.Ленин» — ягоны пажыцьцёвы псэўданім.

Далей газэта распавядае пра самога Мікалая Леніна: прыгоньнік, які катаваў сваіх сялянаў, пракляў уласных дзяцей. Ягоны праклён зьдзейсьніўся: абодва сыны прыгоньніка, якія так дасьціпна дапамаглі важаку сусьветнага пралетарыяту, не перажылі свайго новага «тату», загінулі ў 1919-м.

Ня дзіўна, што Ўладзімер Ульянаў-Ленін да канца жыцьця захоўваў таямніцу свайго партыйнага псэўданіму.

### Хто хоча мала, не атрымае нічога

Гэткае меркаваньне спэцыялістаў-псыхолягаў апублікавала віленская Летувос Ритас. Людзі розныя: адныя напружваюць усе свае сілы й дамагаюцца самых вялікіх, нават «нерэальных» мэтаў; іншых задавальняе мінімум: як-небудзь пад'есьці (вядома ж, не «ананасаў з рабчыкамі»), штось зарабіць (пэўне ж без надзеі стаць мільянэрам), меней высільвацца (салдат сьпіць — служба йдзе). Але нават такія нікчэмныя патрэбы чалавек сам задавальняць ня здольны, бо прызвычаіўся, што яму гэта зробяць за ягоную пакорлівасьць і пасыўнасьць. Між тым, варта засвоіць, што цяжэй за ўсё задавальняць сьціплыя патрэбы.

Хто марыць пра катушок у Інтэрнаце, хутчэй за ўсё яго не атрымае. А вось той, хто хоча мець дом зь зімовым садам, хутчэй за ўсё такі дом збудуе. Маладзён, які марыць, каб якая-небудзь дзяўчына зьвярнула на яго ўвагу, найчасьцей застаецца з носам, а маладзён, які хоча пазнаёміцца з самай прыгожай, — даможацца свайго. Работнік, які спадзяецца толькі на свае сто рублёў і кампэнсацыю, хутчэй за ўсё будзе звольнены, а вось той, які імкнецца зрабіць кар'еру...

Матывацыя сьціплых жаданьняў і нікчэмных патрэбаў слабая. І чалавек, якога не стымулююць да дзеяньня моцныя матывы, звычайна нічога не дамагаецца. Таму і ягоныя сьціплыя жаданьні застаюцца незадаволеныя. Ацэньваючы сярэдняга чалавека, псыхолягі сьцьвярджаюць, што фізыялягічныя патрэбы ён задавальняе ў сярэднім на 85%, патрэбнасьць у бясьпецы — на 70, у сумоўі — на 50, павазе — на 40, у самавыяўленьні й творчасьці — на 10. Людзі, якія хоць бы на 20% задавальняюць сваю патрэбнасьць у самавыяўленьні й творчасьці, як правіла, амаль цалкам задавальняюць і ўсе астатнія свае патрэбы.

## З усіх старон

**Цьвер.** У Цьвярской калёніі ўзмоцненага рэжыму павесіўся адзін зь лідэраў таварыства «Памяць», вядомы змагар за «чысьціню крыві» К.Сьмірноў-Асташвілі.

**Масква.** Некалькі грамадзкіх арганізацыяў вылучылі на прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына. Людзі зьбіраюць подпісы. Кажуць, сур'ёзных канкурэнтаў у Ельцына ня будзе. Як і спрадвеку ўсе надзеі 170-мільённага расейскага народу зьвязаныя толькі з адной асобай. Ці то цар, ці то прэзыдэнт...

**У Хабараўску** адчынілася савецка-амэрыканская крама, дзе набытыя ў ЗША тавары будуць прадавацца за рублі. Курс — 30 рублёў за даляр.

**Якуцк.** Тутэйшыя казакі адрадзілі пешы казачы полк, які быў распушчаны ў часы грамадзянскае вайны. Атаманам абралі есаула — маёра савецкай арміі.

**Ташкент.** Сёлета ў кастрычніку тут пройдзе чэмпіянат сьвету па футболе паміж інвалідаў.

**Вільня.** У рэстаране «Таўра рагас» адбудзецца ўстаноўчы зьезд клюба аматараў піва. Галоўная задача — барацьба за сацыяльныя правы тых, хто любіць выпіць.

**У Сьвярдлоўску** цяпер хаваюць пад магнітафон. Замовіць духавы аркестар каштуе 120 рублёў. Задорага.

# СЛОВЫ



## ПРА...

Алесь Чобат



### Пра сьвядомасьць

У Яраслава Гашака ёсьць апавяданьне «Госьць у хату...». Як прыймаюць гасьцей у розных народаў. Згаданыя й беларусы. Быць госьцем у беларуса даволі добра: можна гасьцяваць хоць тыдзень, піць і закусваць да памарачэньня розуму, цягацца за дачкой ды жонкай гаспадара на ягоных вачох, нарэшце, калі й гэта абрыдне, надзець халат і пантофлі гаспадара й заваліцца на ягоную канапу... І госьць будзе такі ж мілы й жаданы, як у першы дзень. Адным словам, госьць у хату — Бог у хату...

Натуральна, што Гашак згадаў беларусаў між іншым. Чэхам ад яго давялося выслухаць нашмат больш. Як расейцам ад Салтыкова-Шчадрына, як палякам ад Славаміра Мрожака. У кожнай нацыі ёсьць такі пісьменьнік, які дакучае суайчыньнікам, як страмляк пад скурай, — каб ня спалі й рухаліся.

*Ды толькі нам яны не загад!* Народ наш няшчасны й хопіць яго абражаць. А то прыдумалі! Адзін клясык абзывае адукаваных, можна сказаць, людзей «панямонскай інтэлігенцыяй», другі зьдзекуецца з «тутэйшых»...

Але й мы ня дурні. «Панямонцаў» сьпісалі на радзімыя плямы капіталізму, а з купалаўскай трагікамедыі «Тутэйшыя» зрабілі проста трагедыю. Гераічную. І наша крытыка растлумачыла, што пад усходнім ці заходнім вучонымі трэба разумець... Расею й Польшчу. Хоць жа ў Купалы падкрэсьлена, што абодва вучоныя — хлопцы менскія...

*Не хапала нам яшчэ*, каб замест суседзяў мы самі былі вінаватыя ў амаль клясычным, біблейскім беларускім бардаку.

«Вот яшчо прыдумали!».

### Пра дылетантаў

Хочуць, каб было лепей. Прагнуць. Жыць ня могуць. Каб усё было ў чалавека — і мяса, і масла, і *шкарпэткі. У чалавека ўсё павінна быць цудоўна.* Любяць паразважаць на розныя тэмы, пры гэтым спасылаюцца на газэты, якім ня вераць і якіх не чытаюць. Заўсёды адстойваюць свой пункт гледжаньня, які бяруць на пэўны час у каго-небудзь са сваіх знаёмых.

Ведаюць, хто вінаваты й што рабіць. Даюць парады.

З асаблівай прыемнасьцю любяць запрасіць на сяброўскую сустрэчу й там заслухаць справаздачу запрошанага й выказаць яму ўсё сваё..., а потым растлумачыць, што трэба быць разам.

Хочуць мець куміраў — і маюць. Маюць таксама моцныя нэрвы. Таму што часта хвалююцца.

Звычайна выглядаюць вельмі салідна, трымаюцца ўпэўнена, любяць зьбіраць аўтографы й распытваць, што на сьвеце робіцца.

Крыўдуюць рэдка, але зазлаваць могуць надоўга.

### Пра інтэлігенцыю

Паніка тут нядаўна была. У правінцыі.

Аказваецца, ведаеце што? Нейкі ненармальны дэпутат прыехаў праверыць, як работнікі культуры вывучаюць беларускую мову! *Рэвізор знайшоўся...* Як толькі бедныя жанчыны не галасілі! І што перавучвацца позна, і што хто ж яго ведаў, што так будзе, і што спачатку патрабуюць адно, а потым другое. Карацей кажучы, мелі бабы рацыю — *толькі забылі, дзе схаваная...*

Слухайце, а можа й праўда перасалілі?

Ну навошта была тая рэанімацыя мовы? Быў бы сабе дыялект, нічога страшнага. «Нет такого белорусского языка, это диалект русского языка!»

Ну няўжо б работнік культуры (культуры!) не загаварыў, каб прыперла, на дыялекце свайго ж «великого и могучего русского языка»?!

Падумайце, спадары дэпутаты. Бог яго ведае...

### Пра літаратуру

Не паважаюць маладыя сацрэалізм. Правільна, што тут казаць. Пішуць, як жывуць. Вампіры, бруд, *бабы голыя, і ўсё астатняе.*

А тыя гадкія сацрэалісты сядзяць у рэдакцыях — і ня ўлезеш з тым вампірызмам ні-ку-ды! Застанесься маладым літаратарам гадоў да сямідзесяці... Але людзі не бесьсьмяротныя — паміраюць людзі. І рэдактары, і зь цягам часу нават цэлыя рэдакцыі. І прыходзяць новыя людзі, маладыя літаратары, вампірыстыя...

Сон мне прысьніўся. А што, калі завядзецца ў нас ад вільгаці які-небудзь рэаліст, проста рэаліст, ці нават, прабачце, пастаральшчык які-небудзь, фэрмэрскі сын...

Куды ж ісьці яму? І што рабіць? Няўжо ж вампірыстыя пусьцяць у сьвет такога недаробка? Багатая, родная ты літаратура, ой, багатая...

### Пра бел-чырвона-белы сьцяг

Госпадзі Божа мой! Калі гэта нарэшце скончыцца?!

Не беларускі! А вось і беларускі! Не гістарычны! А яшчэ ад Вітаўта ды Астроскага! Фашыстоўскі! Не! Нацыянальны! Не пацьверджана! А яшчэ як — наце, чытайце! Нацыяналісты прыдумалі! Гі-стары-ч-ны!..

З 1918 году толькі вядомы! Штучна створаны! Не-е-е! З 1514... з 1410... з 1393... да Новай эры... Якія мы ўсё ж, — як гэта сказаць правільна, — шчырыя патрыёты... Пераконваем, абараняем, тлумачым. Палітычную праблему зрабілі... Каму хоць даказваем, ад каго баронім? Ды тым «ворагам» абсалютна ўсё роўна. Яны ж так усе свае ступені й тытулы выслужылі. І новыя выслужваюць: сказана, каб г...м замазаць — значыць, замазаць. Заробак жа за так не даюць...

Ды і ў чым абраза? Ну, зьбярэ *Политический собеседник* яшчэ раз «доказы» і што штучны, і толькі з 1918 году... Ну і што? У эстонцаў сіне-бела-чорны якраз, можа, і толькі з 18-га. Дый створаны штучна. Сіні васілёк, чорна-белая ластаўка. Васілёк у жыце — душа нацыі, ластаўка ў небе — надзея. І маюць нацыянальны сьцяг, і ня трэба доказаў у абарону — штучны дык штучны.

Улетку 1989-га ў Горадні вынесьлі тыя бел-чырвона-белыя сьцягі першы раз на мітынг. Чую на другі дзень у тралейбусе: «Ты знаешь, какой все-таки красивый белорусский флаг! Сменили б, действительно, этот официальный...»

Вось так. Прыгожы. Свой.

І ўся палітыка.

*Здымак А.Крыштаповіча*

## Камунізм безь берагоў

Вал. АКУДОВІЧ

**Збылося. Як быццам.**
**Друкуецца ўсё і ўсяляк.**
**Друкуюцца Ф.Аляхновіч, А.Луцкевіч, В.Ластоўскі, Л.Геніюш, Н.Арсеньнева, Я.Калубовіч,**
**друкуюцца «самыя неверагодныя»**
**тэксты сучасьнікаў,**
**гісторыя без купюраў,**
**старым правапісам...**
**Няма цэнзуры.**
**Усе аўтары — сьвядомыя,**
**стаяць на гуманістычных пазіцыях і**
**пішуць тое, што думаюць,**
**пішуць праўду, якая ні ёсьць.**
**Збылося... А ці канчаткова, ці надоўга?**
**Ніхто ня ведае.**
**І нашае «Збылося!»**
**мацней за нашае ж «Ніхто ня ведае»...**
**Між тым, яшчэ зусім нядаўна,**
**яшчэ два-тры гады назад**
**усё было ня так.**
**Шмат што замоўчвалі,**
**шмат пра што хлусілі,**
**з купюрамі выходзілі з друку**
**Купала, Гарэцкі, сучасьнікі.**
**Хісткае становішча**
**новай свабоды слова спакушае**
**ня думаць пра гэта.**
**(Быццам нядуманьне**
**ад чагосьці ратуе.)**
**Але як толькі паддасіся гэтай спакусе**
**ды ўміратворысься, зараз жа**
**зьяўляецца іншая спакуса — думаць:**
**пра хлусьню й рэвэрансы**
**ўчарашніх адраджэнцаў,**
**пра маральнае ды інтэлектуальнае**
**прыстасаванства...**
**Хто нявечыў чужыя й свае тэксты,**
**чаму й навошта?**
**Памятаць пра гэта, думаць пра гэта —**
**шукаць спосабаў засьцерагацца**
**ад гэтага...**
**У такой справе**
**актуальнае рэцэнзаваньне**
**ўчарашніх кніг можа стаць**
**надзвычай карысным.**

### Па старонках *Вобраза-89*

У пэўным сэньсе партыя (камуністычная, вядома), *як бог Сьпінозы, прысутнічае ва ўсім існым.* Таму наўрад ці каго зьдзівіў той факт, што чарговы зборнік літаратурна-крытычных матэрыялаў *Вобраз-89* «прыўрочаны» да 70-годзьдзя рэспублікі й КПБ. Зьдзівіла, бадай, іншае. Чаму прысьвячэньне вынесена ў *анатацыю, якая*, да таго ж, пададзеная дробным шрыфтам?

Вядома, ня ўсё падуладнае партыйнаму апарату і, магчыма, сьнег падае сам па сабе, але хіба мае сэнс даказваць, што ў літаратуры ня тое, каб літарка, коска ня будзе надрукаваная без удзелу КПБ? А *калі гэта так, а гэта безумоўна так*, дык чаму тады дробным шрыфтам?

Няхай Сьпіноза не крыўдуе, але ягоны бог задзейнічаны ў справах сьвету ў значнай ступені менш, чым *партыя ў справах літаратуры.* Як я ўжо казаў, гэтае сьцьверджаньне не патрабуе доказаў, але для тых, хто, як Анатоль Сідарэвіч, генэтычна закадаваны на скептыцызм, прывяду выказваньне чалавека аўтарытэтнага, які ведае прадмет ва ўсіх ягоных мэтамарфозах: «Пленум памог сфармаваць і сюжэт (раман «Глыбокая плынь» — **В.А.**) і маю рашучасць. Задача, якую ставілі і дакладчыкі і першы сакратар ЦК, была простая і зразумелая, яна імпанавала былому франтавіку: паказаць гераізм народа ў вайне і ў мірнай працы» (Іван Шамякін, анкета *Вобраза-89*).

Хоць, магчыма, аўтарытэт Івана Шамякіна камусьці падасца не зусім... Бэлетрыст, што й казаць, выдатны, але вось пазыцыя ў яго нейкая такая... Скажам шчыра, Тутэйшым не падабаецца ягоная пазыцыя.

Вядома, *можна* было б не зьвяртаць увагі на Тутэйшых, ці мала што ім не падабаецца, але так і быць, пагартаем *Вобраз*, пашукаем яшчэ аўтарытэтаў, каб ужо з усіх бакоў.

Як вы, напэўна, разумееце, доўга гартаць не даводзіцца. Старонка трыццаць чацьвертая, паэт Алесь *Бачыла*.

Скажу *сумленна, не хацеў бы ў гэткім кантэксьце* згадваць Алеся Бачылу. Такі ён чалавек, і лёс у яго такі, што не хацеў бы. Але ў сілу менавіта гэтага не-хаценьня ніяк нельга абмінуць адзін эпізод зь ягонай творчай біяграфіі. Гэты эпізод нам пераказаў *Мікола Арочка* («Эпас сумленнасці»). Неяк сабраўся Алесь Бачыла пісаць «Паэму вяртаньняў». Для таго, каб ажыцьцявіць задуму, яму спатрэбілася выехаць у камандоўку. Ён так і зрабіў, прыбыў на месца, «Усё распытаў, разведаў. Падзяліўся сваёй задумай паэмы з Пятром Міронавічам Машэравым і пачуў ухвалу: «Пішы!»

Давайце на гэтым абзацы спынім увагу ды паразважаем: першы сакратар ЦК КПБ даў дабро на паэму. Цудоўна! А калі б ня даў? Вось вам і адказ на пытаньне, якім шрыфтам друкаваць прысьвячэньне КПБ у год яе сямідзесяцігодзьдзя. Не, *толькі вельмі недалёкі чалавек* можа прымяншаць значэньне КПБ ў справе паўнакроўнага функцыянаваньня беларускай літаратуры. Бо ж факты. Паўсюль і ўсюды. На любой старонцы. У таленавітых і бяздарных, прайдзісьветаў і праведнікаў. Ва ўсіх.

На гэтым мы й дамовімся. Але перш, чым рушыць далей, я хачу падзяліцца з вамі адным сваім маленькім сумлевам ці, калі хочаце, невялікім неўразуменьнем. У абрэвіятуры КПБ я неяк ня вельмі разумею значэньне літары «Б». Я думаю, што яна патрапіла сюды выпадкова ці апынулася тут з-за нашай адвечнай сьціпласьці. Бо ж ніякая наша партыя не «Б», яна — «СС». Дарэчы, ці бачылі вы дзе-небудзь на Беларусі хоць бы на самым лядашчым будынку лёзунг «Слава КПБ»? А вось «Слава КПСС» *і на лядашчым*, і на якім заўгодна.

Дасьледваньне абрэвіятураў я ўсчаў ня так сабе, а таму, што ў тэкстах *Вобраза* практычна няма спасылак на КПБ, хоць і юбілей. Аўтары пераважна адсылаюць нас да партыі наогул ці да тоесных ёй знакаў: Ленін, рэвалюцыя, культ асобы, ГУЛАГ, перабудова... Натуральна, я таксама вымушаны буду карыстацца гэтым «наогул».

Асабліва добра і шмат у матэрыялах зборніка ўжываецца Ленін. І гэта, вядома, не выпадкова. На прадмет літаратуразнаўства ў Леніна вельмі добрыя артыкулы ёсьць. І пра Льва Талстога, і пра партыйнасьць літаратуры. Таму на Леніна ўвесь час абапіраюцца і згадваюць. Часам быццам бы *мімаходзь, між іншым, але заўсёды* дарэчы. Міхась Мушынскі («Наш неаплатны доўг») таксама абапёрся. Пісаў доўгі сказ, як заўсёды, ёмісты, грунтоўны, і тут раптам нібы хто яго пад руку штурхануў...

Тут я адчуваю неабходнасьць перапыніцца й выказаць сваю асабістую сымпатыю да Міхася Мушынскага. Некалі, у адным з аглядаў, ён мімаходзь, як цяпер Леніна, згадаў мой першы крытычны артыкул. З тых часоў я стаў уважліва чытаць дасьледваньні патрыярха нашага літаратурна-крытычнага цэха й пераважна рабіў гэта не без прыемнасьці. Вось чаму я не прамінуў ягоную заўвагу пра «вяртаньне да ленінскіх прынцыпаў дэмакратызму».

*«Даўно пара», — падумалася* мне. А *то* ж у нас таксама цяпер ёсьць дэмакраты. Але што гэта за дэмакраты?! Якое там Установчы сход, яны парткам на птушкафабрыцы за пяць гадоў разагнаць ня могуць.

Пара, даўно нам пара вяртацца да ленінскіх прынцыпаў дэмакратыі.

Як вядома, асабліва моцна дэмакратызм Леніна выявіўся ў ягоных адносінах да інтэлігенцыі. Ён яе любіў, бо яна надта разумная. А паколькі Ленін быў ня толькі таленавітым літаратуразнаўцам, але й мудрым палітыкам, дык ён даў указаньне перасяліць усю разумную інтэлігенцыю за мяжу. І пачаў з філёзафаў. Вялікае бачыцца на адлегласьці. Вось няхай адтуль і глядзяць.

Зрэшты, Уладзімер Ільліч і сам быў не абы які філёзаф. Ён настолькі спасьцігнуў сутнасьць бацькі дыялектыкі, што меў поўнае права назваць Гегеля «сволочью идеалистической». І ў зьвязку з гэтым мы маем права пацікавіцца ў Аляксея Рагулі («Наперадзе — раскрыжаванне»), чаму ён так высока й нават у нечым трапятліва ставіцца *да гегелеўскага панлягізму?* Хто спрачаецца, трэба выступаць супраць *нігілізму К'еркегара*, Шапэнгаўэра, Ніцшэ, але навошта гэта рабіць за кошт умацаваньня аўтарытэту Георга Вільгэльма Фрыдрыха Гегеля? Хоць, калі казаць сумленна, я ў нечым разумею Аляксея Рагулю. Так любыя ўсім нам прускія ідэалы казармавае дзяржаўнасьці Гегель вельмі спрытна ўманьціраваў у «абсалютны дух» і гэткім манэўрам забясьпечыў высокае філязофскае завяршэньне чыста зямной палітыцы таталітарызму. А што зрабіў бацька экзістэнцыялізму К'еркегар? Ён надзяліў гэтым абсалютным духам кожнага, нават прыбіральшчыцу прывакзальнага WC, чым недаравальна прынізіў грамадзтва й неапраўдана абсалютызаваў «я». Недарэчна было б *абмяркоўваць, хто вышэй: адзін маленькі* к'еркегараўскі чалавечак ці бясконцая *гегелеўская* дзяржава, увасобленая ў «абсалютным духу»? Тут усё ясна, і ў КПБ з гэтым, безумоўна, згодныя.

Нягледзячы на пэўныя супярэчнасьці, што ўзьніклі паміж Леніным і Рагулем у ацэнцы Гегеля, я не баюся выказаць свае сымпатыі аўтару, бо ў артыкуле «Наперадзе — раскрыжаванне» ёсьць выдатнае слова. Так, усяго толькі адно слова, але якое! Я яго нават наўмысна выдзяляю ў цытаце. «К'ерк'егар, Шапэнгауэр і Ніцшэ *адкрыта* выступілі супраць рацыяналізму ў філасофіі». *Адкрыта* выступілі! Як многа ў гэтым гуку. Вядома, заходні чытач ніколі не зразумее ўсю глыбіню гэтай лексемы (што зусім ня значыць, быццам я стаю супраць перакладу артыкула Аляксея Рагулі на замежныя мовы), бо там, на Захадзе, *памылкова лічаць, нібыта йнакш*, як адкрыта, філёзаф ня можа выступаць. Фаталь*ная аблуда. Захаду трэба бы* ло б больш уважліва прыгледзецца да нашага гістарычнага досьведу. Жыцьцё бясконцае, і ўсё яшчэ можа здарыцца й на Захадзе.

У артыкуле Аляксея Рагулі шмат цікавых назіраньняў і нават вынаходак, але паколькі і ў іншых шмат цікавага, дык я наастачу скажу толькі пра канцэптуальнае. Аказваецца, дарэвалюцыйная беларуская літаратура ў асобе такіх прадстаўнікоў, як Ф.Багушэвіч, Ядвігін Ш., Янка Купала, Якуб Колас, спрыяла «збліжэнню рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі з эстэтыкай марксісцкай», рыхтавала «духоўную глебу для перарастання *рэвалюцыі* буржуазна-дэмакратычнай у сацыялістычную». Вось яно што! А то нефармалы каго толькі не вінавацяць у рэвалюцыі: і меншавікоў, і бальшавікоў, і Керанскага, і Троцкага. А на самой справе выходзіць усё зусім ня так. Нашы радзімыя клясыкі, выходзіць, рыхтавалі сацыялістычную рэвалюцыю.

Магчыма, у мяне ўзьніклі б некаторыя ваганьні ў зьвязку з гэтулькі радыкальнай ідэяй, але калі Алег Лойка («Нам засталася спадчына...») няхай і ўскосна, але пацьвердзіў рацыю калегі, я кан-

Алег Мінкін

# ТРЫПЦІХ

**1. А што калі?..**

А што калі зусім сысьці ад іх,
Лямпастых, галіфастых і тупых,
Што ўладаюць над намі ганарацца?
Пакінуць імі занядбаны сьвет
І адысьці на золку неўпрыкмет
Туды, дзе нам захочацца застацца?

Атрэсьці іх, як пыл, з усім майном,
Нажытым удыганьнем і маной,
І зь іхнім ад нарога і да дышла
Спадлелым ладам, дзе смурод гнільля
Паўзе з крывавазорнага Крамля...
І адысьці, узяўшы толькі прышласьць?

**2. Эцюд (III)**

Ці на мейсцы стаю, ці брыду наўздагад —
Ты паўсюль гэткі самы,
мой сьвеце нягеглы.
Тут, куды ні павернеш, прыходзіш назад
Да дратоў, разапнутых
на чырвані цэглы.



Тут адзіна: ўцякаць ці стаяць на пасту,
Углядацца ў далёкасьць
ці змружыць павекі,
Бо ўсё роўна ня зойдзеш,
куды ні праступй,
У той край, дзе захочаш застацца навекі.

**3. Эцюд (IV)**

Марна вакол ліхтароў
зьзяюць дрогкія німбы,
Марна анёльскімі трубамі
кляксаны граюць,
Кожны тут спуджана б'ецца,
бы ў нераце рыба,
І вастрыямі бакі да крыві раздзірае..
Горадзе мой, ненавідны,
каханы, жахлівы,
Мне ўжо ня мроіцца,
што я адзін — асаблівы —
Вымкну з абдымкаў,
дзе іншыя ўсе паміраюць.

*Здымак А.Крыштаповіча.*

чаткова прасякнуўся гэтай наватарскай канцэпцыяй. «Прыняцце Кастрычніка, новага жыцця, клопат пра яго далейшы росквіт, пра здзяйсненне сацыялістычных ідэалаў — на гэтым першасным грунце ўвесь час — усе 70 гадоў — развівалася беларуская савецкая літаратура»

Вельмі лягічна. Спачатку рыхтавалі сацыялістычную рэвалюцыю (Рагуля), а потым разьвівалі (Лойка).

І ўсё ж... Так то яно так, ды не зусім. Вядома, літаратура клапацілася пра разьвіцьцё сацыялістычных ідэалаў (паспрабавала б яна паклапаціцца пра якія-небудзь яшчэ), але хіба ейная ў гэтым заслуга? У тым і справа, што не яе, а нашага юбіляра КПБ у складзе КПСС. Богу богава, а кесару кесарава. І ня трэба прымяншаць, ня трэба гэтых дробных шрыфтоў.

А ўвогуле, — я вымушаны зрабіць гэтае прызнаньне, — да самага апошняга абзацу (вялікага, праўда) артыкул Алега Лойкі мне здаваўся ў юбілейным зборніку выпадковым, калі не сказаць больш. Аўтар дагаварыўся да таго, што аб'явіў князёў Льва Сапегу й Міхала Радзівіла станоўчымі фігурамі нашай гісторыі. І гэта яшчэ ня ўсё (хоць, здавалася б, куды ўжо далей?!) — Алег Лойка спрабуе абяліць езуіта Пятра Скаргу, а прыгонныя тэатры лічыць цэнтрамі культуры й пры гэтым яшчэ спасылаецца на Уладзімера Ільліча. Не, паважаны аўтар. Геніяльная праца Леніна пра дзьве культуры ў кожнай нацыянальнай культуры для таго й была напісаная геніяльна, каб ніхто й ніколі ня зьмешваў прыгонныя тэатры з сапраўднай дэмакратычнай культурай. І Вы, — гэта я зьвяртаюся да аўтара, — цалкам маеце рацыю ў сваім сумлеве, калі кажаце: «... гэта ж не так проста з'яву, што больш чым паўстагоддзя ацэньвалася толькі негатыўна, пераацаніць у станоўчы бок, захаваўшы навукова-марксісцкія пазіцыі».

Толькі чаму «не проста»? Гэта проста немагчыма. Тут альтэрнатывы няма: або-або. Або пазыцыя, або лухта. Фёдар Міхайлавіч (Дастаеўскі) аднойчы задаўся пытаньнем: калі б мне давялося выбіраць паміж Хрыстом і Ісьцінай, што б я выбраў? І зараз жа адказаў сам сабе: Хрыста, вядома. Вось ён, прыклад, і будзем яго пераймаць, не адступаючы ў дробныя шрыфты. Якая нам карысьць ад Ісьціны, калі Ісьціна без марксісцка-ленінскай пазыцыі? Калі мы захаваем пазыцыю, Ісьціна заўсёды прыкладзецца, пра што пераканаўча сьведчаць згаданыя паўстагодзьдзя.

Што датычыць артыкула Алеся Яскевіча («Абярагчы крыніцы жыцця»), дык спачатку ён таксама выклікаў пэўныя засьцярогі ў сэньсе пазыцыі. Спасылкі на Агюстэна Т'еры (што нам той Т'еры?), ідэалізацыя сялянства і ўлады зямлі, усё гэта й сёе-тое яшчэ не давала падставаў для асаблівага аптымізму. Але я вырашыў не сьпяшацца з высновамі, і меў рацыю.

Не, вам не знайсьці ў Алеся Яскевіча цытаты з Маркса й Леніна (дарэчы, дарма, кашу маслам не сапсуеш); і такіх добрых словаў, як рэвалюцыя, дыялектычны матэрыялізм, партыйная арганізацыя й партыйная літаратура ён таксама не ўжывае, але гэта нічога. Аказваецца, і бязь іх можна выказаць «правильное направление ума». Пра гэта я здагадаўся, калі зайшла гутарка пра гістарычны фэномен Расеі й перамогу над нямецкімі фашыстамі.

«Гістарычны феномен Расіі, якая выстаяла ў кровапралітным супрацьборстве і выратавала свет ад нашэсцяў Чынгісхана і Напалеона, нарэшце, уратавала планету ад бяды ў асабліва згубнай і небяспечнай для лёсу свету другой сусветнай вайне!»

Вельмі слушна і ў час сказана. Я б толькі дадаў, што Расея выратавала сьвет і ад нашэсьця Вялікага княства Літоўскага, і ад нашэсьця палякаў. Дый ня толькі іх. А каўкаскія народы ці балтыйскія. Таксама ж маглі захапіць, калі б Расея не ўратавала.

Цяпер, спадзяюся, кожнаму стане ясна, што на працягу апошняга тысячагодзьдзя Расея толькі й рабіла, што ратавала сьвет. Таму ў яе не засталося сілаў, каб будаваць дарогі, дамы, увогуле цывілізацыю. І ня мае ніякага значэньня тое, што палінэзійцы, паўднёвыя й паўночныя амэрыканцы, індусы й пінгвіны на Алясцы й ведаць ня ведаюць, каму ім дзякаваць за паратунак. А вось беларусы ведаюць, але, на жаль, далёка ня ўсе і да таго ж ня ў поўным аб'ёме. Таму асобныя зь іх пачынаюць сьцьвярджаць, што зусім не Расея спыніла нашэсьце татараў, а самі эўрапейцы. А пазьней нейкі іхні, ці то беларускі, ці то літоўскі (што, быццам бы, амаль адно й тое) Вялікі князь Вітаўт сабраў рыцараў з блізкіх і далёкіх краінаў ды паўстрымаў (назаўжды) Тамерлана на рацэ Ворксьле (па дарозе вызваліўшы ад прыхадняў Кіеў з ваколіцамі). А яшчэ да таго: таксама быццам бы іхні Вялікі князь Мяндоўг двойчы біў татараў і асабліва пераканаўча другі раз пад Койданавым.

Лухта, вядома. Хіба могуць беларусы, ня маючы гістарычнага фэномену, кагосьці ратаваць? Але гэта яшчэ ня самая вялікая лухта. Сёньня сёй-той з гэтых гора-гісторыкаў сьцьвярджае, быццам далёка ня ўсе беларусы ваявалі супраць Напалеона, а вельмі многія нават і зусім наадварот. Бо Напалеон паабяцаў аднавіць іхняе ўлюбёнае Вялікае княства Літоўскае.

Зрэшты, на ўсёй гэтай лухце ня варта затрымліваць увагу. Словы, словы, дарэмныя, некампэтэнтныя. А ў Алеся Яскевіча аргумэнт. Сур'ёзны. Аказваецца, выратавальны фэномен Расеі ўзьнік ня проста так, зь нічога. Ён выхоўваўся «цяжкім, непатрабавальным да жыццёвых выгод ладам сялянскага жыцця» і лічыўся «важнейшым жыццёвым капіталам кожнага новага пакалення». Г.зн., не пярыны лічыліся ў расейцаў вартасьцю, а адсутнасьць пярын. І ў гэтым сэньсе расейцы дыямэтральна адрозьніваліся ад эўрапейцаў ды іншых народаў, якія зь нейкай маньякальнай упартасьцю імкнуліся да жыцьця прыгожага й багатага. Таму Расеі час ад часу даводзілася ратаваць пагразлы ў пяшчоце ды бестурботнасьці астатні сьвет.

«Не сакрэт, што лютая па сваіх метадах, самая згубная з войнаў, развязаная фашызмам у цэнтры цывілізаванага свету, аказалася не пад сілу заходнім арміям...»

Вядома, не сакрэт. Ляжаў, ляжаў гэты эўрапеец пад пярынамі, і раптам яго ў вакоп. Які салдат з такога падпярыньніка атрымаецца, каго ён можа вызваліць? А вось калі з бруду, з-пад дзіравай страхі ў вакоп, дык нават і не заўважыш, што ў вакопе. Адсюль заканамерна выцякае наступнае: «... усёзнішчальнаму, бесчалавечнаму націску сусветных нашэсцяў, што абрынуліся на народы Еўропы на працягу гэтага тысячагоддзя, супрацьстаяць змаглі народы асаблівай гістарычнай загартаванасьці і жыццёвай устойлівасці». Пад народамі «асаблівай гістарычнай загартаванасці» ў першую чаргу маецца на ўвазе расейскі народ, а затым астатнія славянскія. І тут, як кажуць, не дадаць, не адняць. Асабліва калі за сьпінай нашых батальёнаў і дывізій паставіць заградатрады з кулямётамі, яны каго хочаш вызваляць. Праўда, толькі за сьпінай бывае часам недастаткова. Калі б яшчэ сьпераду не варожыя, а нашы. А то з усёй савецкай арміі, якая да пачатку вайны налічвала пяць зь нечым мільёнаў, да канца сорак першага ў палоне ў немцаў аказалася 3,6 мільёна (за ўсю вайну 5,7 мільёна). Праўда, гэтыя дадзеныя апублікаваў не савецкі дасьледчык, а немец Крыстыян Штрайт. І ці варта нам давяраць ворагу?

Часам ня толькі ворагу, але й сябру давяраць ня варта. Прачытаўшы развагі Георгія Коласа («Што за птушка?»), я зразумеў: Л.Бэндэ не заўсёды меў рацыю. У сваім падручніку «Беларуская літаратура» ён, у прыватнасьці, пра Якуба Коласа пісаў: «Творчасць Коласа з'яўляецца выяўленнем імкненняў буржуазнай часткі сялянства, — яна служыла сродкам барацьбы таго сялянства». А пра Янку Купалу ён пісаў так: «Гэты перыяд творчасці Купалы знаходзіцца пад інтэнсіўным уплывам буржуазнага нацыянал-лібералізму. Далейшы працэс развіцця Купалы, які адбываўся ў атмасферы «нашаніўства», даходзіць да такой ступені, дзе Купала становіцца цалкам сфармаваным «нашаніўцам» і ператвараецца ў ідэолага, баяна «нашаніўства».

Георгі Колас неадабральна ставіцца да Л.Бэндэ й ня згодны зь ягоным пунктам гледжаньня. Я спачатку хацеў адказаць Георгію Коласу тым самым, але потым згадаў канцэпцыю Аляксея Рагулі, паводле якой беларускія пісьменьнікі (і сярод іх, зразумела, «сіямскія блізьняты» Янка Купала зь Якубам Коласам) спрыялі «збліжэнню рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі з эстэтыкай марксісцкай» і нават рыхтавалі духоўную глебу «для перарастання рэвалюцыі буржуазна-дэмакратычнай у сацыялістычную». А потым яшчэ згадаў Алега Лойку й ягоныя словы пра тое, што ўсе семдзесят гадоў беларуская літаратура разьвівалася на рэалізацыі сацыялістычных ідэалаў. І вось калі я ўсё гэта прыгадаў, дык зразумеў, што Георгі Колас мае рацыю ў сваім няўхвальным стаўленьні да выказваньняў Л.Бэндэ. Ня мог Якуб Колас апяваць селяніна індывідуаліста, таму што рыхтаваў сацыялістычную рэвалюцыю. І адкуль Янку Купалу было ўзяць час, каб распрацоўваць нацыянал-адраджэнцкую ідэялёгію праз газэту «Наша Ніва», калі ён быў заняты збліжэньнем з марксісцкай эстэтыкай...

А цяпер, як кажуць, зробім высновы. На маю думку, зборнік *Вобраз-89* атрымаўся вельмі няроўны. Ёсьць мейсцы проста выдатныя. Адказы на анкету Кастуся Кірэенкі ці Генрыха Далідовіча задавальняюць самыя пільныя патрабаваньні. Вельмі мне спадабалася ў Генрыха Далідовіча адна думка: «... многім трэба сёння пакаяцца перад рэвалюцыяй, Леніным...» Так, менавіта так, мы ўсе моцна вінаватыя перад імі, асабліва тыя, што засталіся ў жывых.

Але ёсьць у зборніку і працы дастаткова сумлеўнага характару. Я маю на ўвазе артыкулы Алега Лойкі, Міхася Мушынскага, Георгія Коласа. Быццам бы і на рэвалюцыю абапіраюцца й Леніна любяць, але точыць мяне шашаль сумлеву. І я ведаю, чаму точыць. Таму што пазыцыю яны, як бервяно на суботніку, на плячах цягнуць, а не ў сэрцы нясуць. Успомнім Міхаіла Шолахава, што ён казаў (і як! нават лепш за Далідовіча): мы пішам не па ўказцы партыі, а па ўказцы сэрца. Але сэрца наша належыць партыі.

Вось так трэба, дарагія таварышы.

І ўжо зусім непрыймальным лічу той факт, што на старонках юбілейнага выданьня, прысьвечанага 70-годзьдзю КПБ, знайшлося мейсца Алегу Мінкіну й Аляксею Марачкіну.

Разумееце, ва ўсім патрэбная мера. Так, плюралізм, лібэралізм, дэмакратыя, але мера ўсё адно патрэбная.

Я хацеў бы спытаць у складальніка, Сьцяпана Лаўшука: хіба аб'ём зборніка, павялічаны з нагоды юбілею КПБ да трохсот старонак (супраць звычайных двухсот), быў павялічаны дзеля Мінкіна й Марачкіна? Хіба мы ня ведаем, у якіх кампаніях часам бываюць гэтыя людзі?

Калісьці адзін француз высунуў тэзіс: рэалізм безь берагоў. Тады нашыя літаратуразнаўцы ды крытыкі добра адказалі гэтаму французу. Рэалізм адразу ўвайшоў у нармальныя сацыялістычныя берагі, і ўсе супакоіліся.

Сёньня назіраецца яшчэ больш небясьпечная зьява, па аналёгіі з вышэйзгаданай я б назваў яе камунізмам безь берагоў. Менавіта так. Скажыце мне, дзеля бога, які гэта камунізм, калі ў ім знаходзіцца мейсца і Льву Сапегу, і Уладзімеру Леніну, і Алегу Мінкіну? Лухта нейкая атрымліваецца, а не камунізм.

Трэба ясна ўсьвядоміць і сказаць сабе, што ніякай альтэрнатывы ў гэтым пытаньні не было, няма й ня будзе: ці камунізм зь берагамі, ці лухта.

СЛАВА КПБ У СКЛАДЗЕ КПСС!

# Хаўрусныя банчкі

**Анталёгія НН**

**Як ведама, у нас, калі трэба каму пазычыць грошы, то трэба добра пацягацца, пакуль знойдзеш чалавека, а потым яго ўгаворыш даць грошы на вялікі працэнт. Ізноў той, хто грошы пазычае, часамі можа іх не дастаць назад. Па ўсёй воласьці й мястэчку такіх грошай, што пазычаюць, напэўна ходзіць па руках якіх 20 тысяч (найчасьцей па 10-12 працэнтаў). Іншыя людзі кладуць грошы на пошту ў казённую касу на 4 працэнты (напрыклад, у Віленскай губэрні ляжыць каля 5 мільёнаў гэткіх грошай на пошце). Звароту на мейсцы яны ня робяць, — значыць, тутэйшыя людзі каля іх не зарабляюць.**

Па другіх дзяржавах людзі зразумелі, што грошы, як і тавар, для свайго абароту павінны мець такую асобную краму (банчок). У такім банчку грошы робяць акуратны зварот; адзін туды кладзе, напрыклад 100 руб., другі прыходзіць і кажа: «Пазычце мне 100 р.» Банчок яму дае. Такі банчок запраўляецца выбарнымі людзьмі (праўленьнем), якіх выбіраюць хаўрусьнікі ("пайшчыкі"). Хаўрусьнікам можа быць кожны, хто дасьць «пай» 10 р. Хаўрусьнікі выбіраюць с-паміж сябе кантралёраў (рэвізійная камісія), якія час ад часу робяць наверку кніг і ўсёй касы. Банчок плаціць тым, хто кладзе грошы, па 6-7 працэнтаў, а з тых, хто пазычае, бярэ 8-10%. Частка чыстага даходу дзеліцца паміж хаўрусьнікамі, а частка йдзе ў запасны капітал. Хто пазычае грошы, той павінен знайсьці заручыцеля. Дзяржаўны банк такому банчку на падмогу пазычае грошы за невялікі працэнт. Пры дзяржаўным банку ёсьць асобны інспэктар па справах дробнага крэдыту, які памагае заводзіць такія банчкі й даглядае, каб усё ў іх было па закону. Потым усе шчотныя кнігі ў банчку й кнігі з квіткамі вядуцца па казённых кнігах, а таксама статут казённы.

Увесь спосаб звароту грошай заведзены так, што прапасьці грошы ніякім спосабам ня могуць. Каб які хаўрусны банчок збанкрутаваў — гэткіх прыпадкаў не бывала, бо грошы там толькі зварачаюцца; запасны капітал ляжыць у дзяржаўным банку й толькі крыху грошай у самым банчку для звароту.

На Беларусі шмат дзе па мястэчках паадкрываліся хаўрусныя банчкі, але яшчэ многа вясковых людзей спачатку баяцца класьці туды грошы. А баяцца дзеля таго, што ня ведаюць, якое ўстройства хаўруснага банчку. Людзі, што хочуць адкрыць хаўрусны банчок, могуць напісаць да інспэктара дробнага крэдыту, і ён дарма вышле статут і дасьць усе рады. Для падняцьця багацьця краю хаўрусныя банчкі шмат памагаюць. Грошы пачынаюць рабіць звароты, і шмат людзей з гэтага зарабляе, дый маюць выгаду, бо ў патрэбе заўсёды маюць лёгкі крэдыт.

**А.У.**

*Наша Ніва, 1910, №5.*

# Вершы для завучваньня

**У пасьляваенныя гады
на Беларусі пісалася ды выходзіла
шмат вершаў для дзяцей.
Між гэтых твораў нямала цікавага
й карыснага.
Але гэтае цікавае губляецца
ў масе цяжкай для дзіцячага
разуменьня, шэрай прадукцыі.
Думка пра тое, каб вылучыць
усе творы-залацінкі
ў васобную чытанку-анталёгію,
напэўна, ня раз зьяўлялася ў бацькоў
ды выхавальнікаў,
яна лётае ў паветры.
Набудзеш дзіцяці кніжку —
і шукаеш у ёй чаго прыдатнага,
або тлумачыш малому,
што такое Першамай, камсорг
і падобнае...
Або тут жа, чытаючы, перарабляеш
невымоўныя радкі...
У чытанку, што будзе друкавацца
ў Нашай Ніве, я адабраў найперш
такія вершы, якія не патрабуюць
вялікіх ведаў у роднай мове
й самі ёсьць першай прыступкай
у авалоданьні мовай, як для дзетак,
так і для дарослых.
Усе вершы, часам крыху
скарочаныя й спрошчаныя,
разьлічаныя на завучваньне напамяць.**

**А.М.**

### КАТОК

У мяне ёсьць жвавы
Шэранькі каток,
Жэўжык, непаседа,
Вечна — скок ды скок!
Хвосьцікам паводзіць,
Гнецца у дугу,
Трэцца шэрым бокам
Аб маю нагу.

*(А.Жаўрук, А.Ушакоў)*

### КОШКА

Села кошка на парожку,
Вяжа коціку панчошку,
А пасьля пашые тапкі,
Каб катку ня мерзлі лапкі.

*(З народнага)*

### ЖУЧКА

Жучка дрэмле каля ганка,
Хвост згарнуўшы абаранкам.
Сыпіць ня сьпіць — але глядзі! —
Тут ля ганка не хадзі.
Жучка сочыць за парадкам
Каля дому і на градках.
Не пакрыўдзіў бы курэй
Злы пракуда — кот Мацей

*(І.Юкляеўскі)*

### БЫЧОК

Ой, бычок, мой бысенька,
Залатая лысінка,
Бадучыя рогі,
Тапучыя ногі.
Паціхеньку ты хадзі,
Малых дзетак не будзі.

*(З народнага)*

### СЬВІНКА

Мусіць, занядужала
Сьвінка бруднабокая,
Бо залезла ў лужыну,
Рохкае і вохкае.
Вочы ў сьвінкі зьліпліся,
Паглядае вяла:
— Ну, калі ж ты высьпісься?
Пэўна, ноч ня спала?

*(С.Шушкевіч)*

### АВЕЧКІ

Я пасу авечкі
Каля самай рэчкі.
Воўна ў іх бялюткая,
Мяккая, танюткая.
Будзе на валёнкі,
Будзе на панчошкі
І на рукавічкі
Застанецца трошкі.

*(А.Дзяржынскі)*

### ПАВУЧОК

Павучок — ткач-ткачок —
Сеў на тоненькі сучок.
Павуціньне сваё праў
І на гольлейку снаваў.
Нітку да ніткі —
Камарам на сьвіткі.

*(Л.Геніюш)*



*Мал. С.Харэўскага*

# Пішам тарашкевіцаю

*10 памятак беларускага правапісу*

**Вінцук ВЯЧОРКА**

Да 30-х гадоў беларускі правапіс разьвіваўся паступова й натуральна. Стыхійны адбор лепшых напісаньняў ішоў да 1918 году, калі Браніслаў Тарашкевіч упарадкаваў правапіс і граматыку. Сыстэма тарашкевіцы ўдакладнялася, пашыралася працаю іншых навукоўцаў (Язэп Лёсік, Ян Станкевіч), супольнаю думкаю беларускіх мовазнаўцаў (Акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, Менск, 1926).

У БССР правапіс і граматыка Тарашкевіча былі ў 1933 годзе скасаваныя ды замененыя — зьнянацку, гвалтам, пры вымушаным маўчаньні навуковае грамады — на зрусыфікаваныя. На тое была адпаведная пастанова «Совнаркома». У Заходняй Беларусі, на эміграцыі ўвядзеньне наркомаўкі сустрэлі пратэстамі й надалей пісалі паводле Тарашкевіча, паводле жывое мовы. Асобныя непасьлядоўнасьці (правапіс й, ў; правапіс чужаземных словаў з дыфтонгамі) парадкаваў Антон Лёсік, а на эміграцыі — Ян Станкевіч, Валянтына Пашкевіч, іншыя.

Наркомаўка розьніцца ад тарашкевіцы найперш адарванасьцяй ад жывое мовы й клясычнае традыцыі беларушчыны. Рэформа 1933 году жывасілам увяла ў нашую мову неўласьцівыя ёй граматычныя формы й нават вымаўленчыя правілы. Зьмянілі слоўны запас, касуючы самабытнае ды ўводзячы «объединяющее», зьмянілася нават будова сказаў. Таму, каб вярнуцца да жывое тарашкевіцы, замала толькі пісаць і вымаўляць па-тарашкевічаўску, пакупалаваму. Але з чагось пачынаць трэба. Зручней — з правапісу.

ДЗЕСЯЦЬ ПАМЯТАК — для тых, хто ўмее пісаць наркомаўкай. Яны датычаць толькі правапісу (не граматыкі, г.зн. зьмены словаў). Тарашкевіца прасьцейшая ад наркомаўкі, бо ў ёй нашмат менш выключэньняў, да яе амаль заўсёды стасуецца прынцып «як чуваць, гэтак пішацца — і наадварот». Толькі бяда, што дзесяцігодзьдзі панаваньня наркомаўкі прывучылі многіх вымаўляць беларускае слова няслушна: чэШСкі, нЕ буду (трэба: чэскі, ня буду — прасьцей і больш сьпеўна). Але праз тарашкевіцу ёсьць шанец вярнуць нашай мове спрадвечную мілагучнасьць.*

1. Мяккі знак, як і належыць, пазначае мяккасьць: **сьвята, абедзьве, празь мяне, цьвёрды, сыцьвердзіць у Фроньце ды ў Кліўленьдзе.**

Пасьля **С З Ц ДЗ Н Ь** пішацца перад мяккімі зычнымі, апроч **Г К Х.**

(Нагадаю: мяккія будуць тыя зычныя, за якімі йдуць **І Е Ё Ю Я Ь**).

**Сьвіснуў**, але **скінуў; раСЬлі**, але **беларускі. ЗЬ Лёдзяю**, але **з Лукашом, з Кірпатрыкам.**

2. Разьдзяляльны мяккі знак пішам пасьля **С З Н Л** перад **Е Ё Ю Я**, а таксама **І**, калі яно пад націскам: **бязьядзерны, зьеду, пасьянс, маньяк, зь імі ці бязь іх.**

3. Доўгія мяккія гукі пішам праз мяккі знак: **калосьсе, палозьзе, судзьдзя.** Ня тычыцца прыставак на Д: **ад-дзел, ад-цеміць.**

4. Зьбегі зычных пішуцца як чуваць: **чэх — чэСкі, Парыж — парыСкі, у Рызе — рыСкі. УзбэЦкая й КазаСкая** рэспублікі. **ГагауСкая** праблема.

* Тарашкевіцу ў цяперашнім яе выглядзе можна й трэба дасканаліць далей. Аднак перш яе трэба вярнуць. Маю прапановы, як дасканаліць, ды выкажу іх пасьля.

**Увага: швэд-скі** вымаўляем «**швэцкі**», але замест глухога **Ц** пішам звонкае **ДЗ: швэДЗкі, гараДЗкі, ірлянДЗкі.**

Пішам як чуваць: **еЖДЖу, пяШЧаны, пакаШЧык** (варыянт А.Лёсіка і Я.Станкевіча). **Я сьмяюся — ты сьмяесься.**

Ня тычыцца прыставак і прыназоўнікаў: **сшытак, разжыўся, бяз Чорнага.**

5. **У І** заўсёды скарачаюцца пасьля галосных, калі перад імі няма знаку прыпынку й на іх ня падае націск: **на Украіне, на ймя, Ганна йшла, ва ўнівэрсытэце, я й кажу, на Йвана, Тайлянд, аўдыякасэта, Модраў з Чаўшэску.** Увага: **калёквІЮм, кансылІЮм.**

6. Чужаземныя (заходня-эўрапейскія) словы маюць **Л** мяккае, як і ў тых мовах, адкуль яны прыйшлі: **лямант, акуляры, калёна, плян, клямка, плюралізм, клюб, мэталь, дэталь.**

**Увага:** у канцы слова можа быць **Л** цьвёрдае: **генэрал.**

У расейскай мове тут непасьлядоўнасьць: **Финляндия — Голландия, люмпен — луза,** бо словы йшлі праз кнігу. На Беларусь жа заходнія словы, найперш лацінскія й нямецкія, траплялі праз жывы кантакт з носьбітамі гэтых моваў, праз масавае вывучэньне тае ж лаціны ў сярэднявечнай школе.

7. З гэтае ж прычыны ў чужаземных (заходня-эўрапейскіх) словах пасьля зычных, акрамя **Л** і **К**, пішам **Э: пэрыяд, мэтар, сэрвіс, праспэкт, газэта.** Але: **анкета.**

Увага: пасьля **Г** і **Х** можа пісацца **Е: хЕўра й хЭўра, гЕнэрал і гЭнэрал.**

У чужаземных словах пасьля **З С Д Т** пішацца й вымаўляецца **Ы: сынонім, дыктар, максымум, Бразылія.**

Увага: **-зія, -сія, -зійны, -сійны** пішацца праз **І: калізія, камісійны, сэсія.**

Варта заcеміць таксама: **нактурн, мініятура, Эўропа, эўрапейскі, нэўтральны.**

8. Вымаўляецца й пішацца **-ТАР, -ДАР** у словах: **тэатар, мэтар, літар, кадар, монстар** і падобных. Але: **36 кадраў.**

Варта заcеміць: **нэрва, інтэрвію.**

9. Пасьля **У** вымаўляецца й пішацца **В** перад **А: у вадзін вагон, у варанжавым сьвятле, у Вангельшчыне.**

10. **Е** пераходзіць у **Я** ў першым складзе перад націскам у **НЕ** й **БЕЗ**, нават калі яны пішуцца асобна: **бяз волі, ня прыйдзеш**, але: **без ахвоты, не вызначальны.**

Тарашкевіца мае пэўныя іншыя правілы артаграфіі, напрыклад, досыць складанае правіла пераходу **Е ў Я** (цяперашняе афіцыйнае — зручнейшае), дэталі пададзеных тут правілаў. Мы ж падалі найважнейшае, дастатковае для таго, каб пісаць тарашкевіцаю. Наступны адцінак прысьвяцім граматыцы.

# Спачатку быў Гданьск

*інтэлігенцыя й рабочы рух*

**Апошнія страйкі у Менску й па ўсёй Беларусі пакуль што няпроста асэнсаваць і прагназаваць. Мабыць, трэба пачаць з аналізу рэтраспэктывы, «гісторыі пытаньня». Што адкуль узялося? Як падобныя сытуацыі разгортваліся ў іншых краінах? Нездарма лідары сёньняшніх беларускіх страйкамаў у сваіх інтэрвію асабліва часта спасылаюцца на «польскі досьвед», на досьвед Салідарнасьці. Як усё гэта пачыналася там?**

1.
«Праская Вясна» й спроба лібэралізацыі рэжыму ў Чэха-Славаччыне былі ўспрынятыя савецкай грамадзкасьцю, як на той час, зусім натуральна. Што нам казалі — у тое мы верылі. Дый ня толькі мы. Але калі ў нас «адшчапенцаў» ці «дысідэнтаў» тады яшчэ практычна не было, дык у навуковых і студэнцкіх асяродках Польшчы чэскія падзеі адгукнуліся прыкметна. А было так...

12 сакавіка 1968 году польская прэса пісала: «Здарэньне 8 і 9 сакавіка ва Унівэрсытэце Варшаўскім ужо абрастае міфамі. Як звычайна, пасьля любой вулічнай авантуры нараджаюцца розныя вэрсіі...

У пятніцу ў двары Унівэрсытэту сабралася вялікая група студэнтаў. Усе, хто прыйшоў сюды, атрымалі ўлёткі антыдзяржаўнага зьместу. Студэнтка факультэту сацыялёгіі Ірэна Лясота агаласіла рэзалюцыю супраць выключэньня студэнтаў Адама Міхніка й Генрыка Шляйфэра...

Група самазванцаў накіравалася да рэктарату, пры гэтым адзін з тых самазванцаў заявіў, што яны ёсьць легальная апазыцыя...» Далей пададзеныя імёны найбольш, як сказана, распаленых хуліганаў: «... Аляксандар Смоляр, сын галоўнага рэдактара адной з газэтаў... Віктар Гурэцкі, сын генэральнага дырэктара зь міністэрства фінансаў... Ірэна Лясота, дачка палкоўніка рэзэрвы... Гэнрык Шляйфэр, сын цэнзара (!) з Галоўнага ўпраўленьня кантролю прэсы... Эва Зажыцка, дачка былога старшыні сталічнай народнай рады...» Карацей кажучы, бэйбусы адпаведных бацькоў. Не зьдзіўляе й традыцыйны клясавы прысуд: «За плячыма моладзі хаваюцца вядомыя ўладам інсьпіратары сутычак, якія паходзяць з грона палітычных банкрутаў і самазванцаў...»Яшчэ праз два дні пра гэта гавораць ужо лідары Народнай Польшчы. «Якія ж падзеі прывялі да злучэньня пэўных групаў моладзі вакол палітычных плятформаў і канкрэтных дзеячоў з мэтай антыдзяржаўнай апазыцыйнай працы?.. Найбольш яскравы прыклад — дзейнасьць так званага «дыскусійнага палітклюбу» ў Варшаўскім Унівэрсытэце... Гэта сьметнік з амаль усіх антысацыялістычных канцэпцый... Вылучаліся Яцак Курань і Караль Мадзалеўскі... Тыя канцэпцыі былі распрацаваныя чужымі й айчыннымі рэвізыяністамі, а таксама дзеячамі IV Інтэрнацыяналу...»

Бач ты! Аказваецца, Я.Кураня выгадавалі трацкісты. Прынамсі, так заявіў 1 сакратар сталічнага камітэту ПАРП Юзаф Кэмпы. Але, здаецца, тагачасны першы сакратар у Катавіцах Эдвард Герэк выказваў большыя здольнасьці — нездарма ж ён хутка будзе першым ва ўсёй «народнай» Польшчы:

«Брудная пена, што выплыла на хвалі падзеяў у кастрычніку 12 гадоў таму (расстрэл рабочых у Познані, 1956 год. — А.Ч.), не была цалкам змытая з плыні жыцьця... Гаспадарчыя цяжкасьці, якія мы пераадольваем у апошнія гады, — гэта вынік дзейнасьці падманутых прыслужнікаў рознага колеру рэвізыяністаў...»

Трэскі ў патоку... Пена на хвалі перабудовы... Запявалы закуліснага хору... А яшчэ кажуць, што беларускія камуністы нічога не чытаюць! Яшчэ як чытаюць — нават Э.Герэка...

Далей сталічныя й правінцыйныя газэты выходзяць ужо пад такімі, напрыклад, загалоўкамі: РАБОТНІКІ ПАТРАБУЮЦЬ СПАКОЮ!

Што ж, калі народ патрабуе... Ад 14 да 18 сакавіка «ачысьцілі» ад сыяністаў-трацкістаў-рэвізыяністаў сталічны Унівэрсытэт, у правінцыі скончылі на тыдзень пазьней, бо там «ворагі» гаварылі менш, а то й нічога, — патрэбны быў час, каб выкрыць.

1 сакратар ЦК ПАРП В.Гамулка сустрэўся 19 сакавіка з партактывам сталіцы. Усіх рэвізыяністаў ён пералічыў па прозьвішчах, але пры гэтым абараніў... Адама Міцкевіча. «Няможна дазволіць, каб дзеля нейкай абстрактнай свабоды ператварыць антыцарскае вастрыё »Дзядоў" у антысавецкую зброю... Не пагодзімся ніколі, каб зь Міцкевіча рабілі штандар антысавецкіх дэманстрацыяў". Клясык спатрэбіўся Гамулку, каб адсеяць зерне ад мякіны. «Прафэсыйна-нігілістычная пазыцыя групы выкладчыкаў вышэйшай школы не заслоніць нам пазыцыю ўсёй польскай інтэлігенцыі й ня здолее адлучыць яе ад рабочай клясы й яе Партыі».

Інтэлігенцыя ўздыхнула й выцерла пот. Шляхам аргнабору ў вышэйшыя вучэльні пайшлі дзеці сялян і рабочых...

2.
Між тым «гаспадарчыя цяжкасьці» працягваліся. Увосень 1970 году ў глыбокай таямніцы Палітбюро ЦК ПАРП прыняла рашэньне падвысіць цэны на мяса, масла, хлеб, малако, тлушч, бульбу, цукар... Гэтак у 2-2,5 разы. За адну ноч. За паразуменьне з уласным грамадзтвам адказвалі Ідэялягічны аддзел ЦК, міністар нацыянальнай абароны й міністар унутраных спраў. Апэрацыя была прызначаная на палову сьнежня.

Неяк Бог мілаваў. Крыху пагудзела Варшава, пастрашыў Шлёнск, пакрычала Лодзь, астатнія рыпелі зубамі. Моўчкі... Першы дзень глуха маўчала Труймесьце — Гданьск, Гдыня, Сопат...

... ранкам яшчэ працуюць сточні й порт. Жанчыны думаюць, падлічваюць, плачуць. Мужыкі пахмура глядзяць на цэхавых аўтарытэтаў. Слова за словам, потым выходзяць на заводзкія двары, зьбіраюцца ў пралётах карпусоў. Патрабуюць начальства, дырэктара...

Ад паўдня пачынаюцца мітынгі. Дырэктар гаворыць, людзі слухаюць; ну, што Ім скажа дырэктар? Вызначце прадстаўнікоў, будзем гаварыць. Выбіраюць доўга, шэптам, прапануючы адзін аднога... Потым герэкаўская прапаганда выкрые, а органы перасаджаюць хуліганаў і завадатараў... Жанчыны адцягваюць за локці: ня лезь,



*Прага, 1968. Здымак Ё.Кудэлкі.*

# Мытыя яблыкі

*(Працяг са стар. 1)*

вялікага зьдзіўленьня, назіралі ўсё гэта ня толькі мы. Празь дзень ці два заходнебэрлінская тэлевізія паказала кадры з пачаткам руху нашай калёны. Можна было здагадацца, зь якога мейсца фільмавалі. Я з трывогай пачаў аднаўляць у памяці падзеі таго дня, і мне здалося, што памятаю, як на полі зьбіраў нейкую траву ці лубін, ладуючы яго на багажнік ровара, пажылы немец. Гэткі баўэр, у кепцы. Дык значыцца, вось які ён, сапраўдны шпіён! Зблізку ён нічым не адрозьніваецца ад звычайнага чалавека. Гэтае адкрыцьцё ўразіла мяне неверагодна.

Ад таго часу, як дзьве ці тры такія калёны пакінулі вайсковы гарадок, у ім стала даволі бязьлюдна, і неяк падспудна пасяліўся страх. Апавядалі, што нас засталася ахоўваць адна толькі танкавая рота (адкуль ёй было ўзяцца ў авіячастцы?). І ўсё больш упарта з вушэй у вушы сталі перадавацца чуткі пра вусьцішны «дзень Ікса», калі немцы дружна выйдуць выразаць усіх нас. Ночы якраз стаялі чорныя — хоць вока выкалі. Маткі заганялі нас дахаты да прыцемкаў і баяліся расчыняць вокны, церпячы задуху ў пакоях цёплымі жнівеньскімі вечарамі.

Ніколі не забуду заплаканага твару мамы, якая разам з суседкай сустракала нас, двох хлопчыкаў, якія, быццам ня памятаючы пра небясьпеку й перасьцярогі, адправіліся, нічога не сказаўшы, у мястэчка на штогадовы кірмаш у апошні перадшкольны дзень жніўня. Вам ніколі не даводзілася бываць на такім? Гэта штосьці накшталт славутага чэскага «Лунапарку». Вандроўныя вагончыкі з забавамі. Карусэлі, атракцыёны, цір. Не такі, як у нас. Немцу не цікава цаляць у розных вавёрак, якія, зразумела, калі не спудлуеш, куляюцца ці пачынаюць круціцца. Тут кожны стралок мог дастаць прыза ў выпадку, калі б здолеў перастрэліць мудрагелістыя канфігурацыі (накшталт нашых саламяных «павукоў») штучных макаронін, на якіх трымаюцца розныя рэчы, нават, як памятаю, — пузатая пляшка шампанскага віна. Чым даражэйшы прыз, тым цяжэй было яго атрымаць, тым большых грошай — на кулькі — ён вымагаў. Мы звычайна здавольваліся ўсялякай драбязой...

Так, але самае горшае чакала нас тады яшчэ наперадзе. Абодвух надзвычай строга на падворку, каля самага дому паўшчувала суседка-камбатша. Мы яе баяліся. Сваіх дзяцей яны з камбатам ня мелі, а кабета яна была, між тым, уладная й не цярпела пярэчаньняў сабе.

Як там ні было, але жыцьцё, хоць і без бацькоў, ішло сваім парадкам. Зьнішчальнікі болей не прарэзвалі паветра, затое неўзабаве ў нас сталі прызямляцца грузавыя «Аны». Мы бегалі сустракаць іх, бо лётчыкі прывозілі лісты, а забіралі нашыя перадачы туды — бацькам. Разам зь іншым рыштункам у чэрава самалёта кожнага разу загружалі ёмістасьці з вадой. Вады чэхі не давалі. А калі яна й надаралася, дык нашыя баяліся, што атручаная. Ваду ашчаджалі, эканомячы на ўмываньні й на ўсім, што было магчыма. Вось чаму, калі мы перадавалі бацьку садавіну, часьцей яблыкі, я па некалькі разоў нагадваў маме, каб не забылася ў лісьце папярэдзіць бацьку, што яблыкі добра вымытыя й ня трэба марнаваць на іх ваду. Нашыя газэты, няйнакш сьледуючы літары ваеннай тайны, амаль нічога не паведамлялі пра тое, што дзеецца тамака, за Судэцкімі гарамі. У памяці застаўся толькі артыкул, вялікі — на цэлую старонку — пра тое, як загінулі нашыя танкісты, калі горную дарогу на іхнім шляху перагарадзілі ланцужком дзяцей. Затое зь нямецкае тэлевізіі (а іншае папросту не было) мы ведалі, не валодаўшы нават мовай, шмат болей. Бачылі танкі на вуліцах Прагі сярод звычайных

пастраляюць, і ўсё! Раптам — маланкавая чутка: сточня імя Леніна выйшла ў горад! За ёй!

... ля брамы ўжо міліцыя. Праўда, бяз зброі. Гданьская міліцыя. Сутычак пакуль няма, але натоўп сьмялее, крычыць, далучаюцца людзі, шмат моладзі... Першы стрэл. У каго? Хто? Расьце напружаньне...

... тысячы людзей зьбіраюцца на плошчы. З будынка выходзіць першы сакратар ПАРП у Гданьску тав. Юньдзіл: «Чаго прыйшлі?» Гавораць усе разам. «Не, так ня будзем. Заўтра прыходзьце на прыём. *Па адным»*... Сьвіст. Нарэшце выбіраюць дэлегацыю, ідуць у будынак. Людзі стаяць на плошчы й на вуліцах — у цэнтры Гданьска ўжо дзесяткі тысячаў. Пасылаюць ганцоў да Гдыні...

Праз пару гадзінаў дэлегатаў усё няма. Пачынаюць крычаць, што ўсіх арыштавалі. Агульны крык. Спрабуюць выламаць дзьверы, ляцяць шыбы. У двары будынка раптам відаць дым...

... а ў той час у мотастралковую дывізію пад Гданьскам прыбывае група генэралаў і афіцэраў Генштаба Войска Польскага. Каманьдзір 1-га палка атрымлівае загад: Гданьск захоплены злачынцамі й хуліганамі, цэнтар гарыць, неабходна дайсьці да будынка ваяводзкага камітэту партыі й вызваліць адтуль людзей. Афіцэр удакладняе, *ці мае ён права ўжываць зброю, — пацьвярджаюць*, так. Афіцэр удакладняе, ці ёсьць пісьмовы загад, як гэтага патрабуе Статут, — адказваюць, потым напішам. Полк на бронетранспарцёрах кіруецца на Гданьск...

У той дзень крыві не было.

Уначы ўсе сточні Гданьска й Гдыні былі заблякаваныя войскамі МУС, ранкам людзей ужо не выпускалі. Афіцэры папярэджвалі, што маюць загад страляць. Нагналі сьпецтэхнікі. Пазьней загадалі ўсім выйсьці, вяртацца дамоў і заўтра выходзіць на працу. Па тэрыторыі сточні хадзілі незнаёмыя, фатаграфавалі людзей. Пад вечар зьявілася дэлегацыя ўраду. Увечары большая частка работнікаў пакінула сточню.

На трэйці дзень «падзеяў» каля прахадной сточні ў Гдыні войскі стралялі ў натоўп — быў ранак, большасьць людзей ішла на працу, страйкаваць угаворвалі асобныя групы... Парадак наводзілі яшчэ два дні. Міліцыя й служба бясьпекі пачалі арышты. На сточні імя Леніна ў Гданьску арыштавалі ці затрымалі практычна ўсіх мужчынаў. Пад суд пайшло ня так і шмат, але звальненьні з «воўчым білетам» былі масавыя. Быў сьнежань...

3.
Забітых і параненых у чорны сьнежань лічылі сотнямі. Польшча прыціхла. Таварыш Герэк выбіў на Захадзе крэдыты, купіў тавары, даў датацыі, пачаў будаваць жыльлё. У краіне працягвалася паляваньне на «апазыцыю» й «злачынных элемэнтаў».

Новыя страйкі скалыхнулі гданьскія сточні ў 1976-м. Лепш да гэтага падрыхтавалася ўлада. Пайшлі новыя арышты й звальненьні. У Варшаве паўстаў КОС-КОР — камітэт абароны работнікаў, утварылі яго тыя ж выгнанцы 1968 году й звольненыя ў 1970-м у Гданьску. Пасьля 1976-га было й новае папаўненьне — між іншым, электрык і сталы беспрацоўны за баламуцтва Лех Валэнса. Яшчэ праз чатыры гады, калі паўстала першая Салідарнасьць і паляцеў тав. Герэк, страйк адначасова пачаўся на ўсім узьбярэжжы й за тыдзень перакінуўся на астатнюю Польшчу. З падпольля ды зь мейсцаў зьняволеньня выйшлі «дэструктыўныя сілы». Інтэлектуальнаму ўзроўню групы дарадцаў Краёвай Камісіі Салідарнасьці маглі б пазайздросьціць урады і ЦК «стран социалистического содружества». Горкі вопыт дванаццаці гадоў, крыві, бясьсільля, бадзяжніцтва крышталізаваўся ў адзінства народа супраць рэжыму — адзінства без увагі на наяўнасьць гальштука ці рукі ў мазуце.

І яшчэ дзесяць гадоў прайшло. І толькі тады развалілася камуністычная імпэрыя...

4.
Ці слухалі партыйных аратараў работнікі варшаўскіх заводаў, сагнаныя на мітынг у падтрымку ПАРП, ці разумелі сэнс уваткнутых ім у рукі плякатаў?.. На разбэшчаную «дэструктыўную» інтэлігенцыю, пэўна ж, злавалі — стой тут з-за тых прафэсарскіх сынкоў невядома чаго, быццам няма другога занятку! Напэўна, і камуністаў не любілі. Але нехта ж павінен кіраваць, як інакш? Навошта тыя апазыцыі, ці ж яны што зробяць? — абы справядлівасьць была, тавары, парадак...

Калі чалавек маўчыць, трымаючы ў руцэ той плякат, які ўпіхнулі, калі па паперцы з напружаньнем ды заіканьнем выкрывае тых, каго ніколі ня чуў, не чытаў, не бачыў, ён яшчэ ня дурань або падлюка. Ён самы звычайны чалавек, які, сам таго не ўсьведамляючы, заключыў пэўную ўмову з уладай — няважна якой. Добра, згода, я буду нікім і не хачу быць усім, я ня буду перашкаджаць вам ні дурэць, ні красьці, я буду выконваць *капрызы й загады, глупоты й пляны*, я ня буду ні думаць, ні гаварыць, я прасяджу жыцьцё ў шчыліне рабочага інтэрнату, я прызвычаюся да самага нізкага, самага прымітыўнага ўзроўню жыцьця, я аддам усё, аддам табе, улада — але калі ты ўлада, дык забясьпеч мне маю звычку, як хочаш забясьпеч, дзе хочаш вазьмі...

Але ўлада яшчэ нікога не забясьпечыла. Улада можа адно: не перашкаджаць людзям жыць і самім утрымліваць сябе.

.Дзесяткі гадоў сьпела такое разуменьне. З аднаго й з другога боку — праз недавер адных, праз забітасьць другіх. Напэўна, высьпела б яно і ў ціхім цярпеньні, калі чалавек адгароджваецца ад сьвету, ратуецца ў прафэсіі ці сям'і. Напэўна, было б і так, — толькі калі? І які б працэс апярэдзіў і перамог: цярпеньне ці ажывёльваньне? На жаль, розум заўсёды прыходзіць пазьней, адчуваньне веры ў сябе самога бывае пазьней.

Спачатку быў Гданьск...

**А.Ч.**



*Прага, 1991. Здымак А.Крыштаповіча*

цывільных гарадзян. Але гарадзяне былі не такія ўжо міралюбныя. Нейкія юнакі падпалілі ззаду танк. Танкісты ў шаломах, з матам — яго было чуваць праз гаворку камэнтатара — зьбівалі молатам круглыя бочкі з палівам. А танк гарэў, укрываючыся чорным дымам. Вось вам і «кактэйль» Молатава.

Камбат зьдзіўляўся, як такое магло здарыцца. У 45-м ён, яшчэ зусім юны лейтэнаньцік з адной зоркай на пагонах, бачыў Прагу іншай і танкі — у кветках, танкі проста ехалі па кветках, бо імі быў высьцелены шлях — столькі шмат іх было. Ад кветак і ўсьмешак пражанаў не засталося й сьледу. Ён ня мог нічога зразумець. Ён ледзьве не загінуў, едучы на чале калёны. Шафёр-татарын у вапошні момант заўважыў разьлітую на асфальце лужыну машыннага алею... А яшчэ чэхі пераварочвалі, пераносілі дарожныя знакі, каб заблытаць, увесьці ў зман войскі хаўрусьнікаў.

Для кожнага ўсё гэта магло скончыцца трагічна. Бацька апавядаў, як аднойчы, на горнай дарозе, па іхняй машыне адкрылі агонь. Кулі раструшчылі лабавое шкло блізка галавы. Яны — як звычаць — скаціліся ў рышток і абстралялі гару.

А чэская армія была здэмаралізаваная. Яна апынулася паміж двух агнёў. Майму бацьку аднойчы давялося суправаджаць аднаго генэрала ў разьмешчаньне чэскай часткі. Калі яны ўвайшлі ў памешканьне, усе іхнія афіцэры былі п'яныя. Брыдкае відовішча. Занятыя хто чым, як запароскія казакі, яны не былі падобныя да вайскоўцаў. Можна было разгубіцца ад нечаканасьці, тым больш, што на прыбылых ніхто не зважаў. Але тады генэрал зычна скамандаваў: «Встать! Смирно!». І яны не адразу, але падпарадкаваліся.

Надалей паміж нашымі ды іхнім афіцэрамі навязаліся кантакты й нават сяброўства. Пра гэта сьведчаць і здымкі, на якіх яны, і сярод іх мой бацька, сфатаграфаваныя разам. На вуліцах, каля палацаў, фантанаў, помнікаў. Можна ўбачыць і той, прысьвечаны воінам Чырвонай Арміі, запэцканы фарбай. На ўспамін нашыя бацькі прывезьлі сувэніры, падараваныя чэхамі або куплёныя самімі. Бірулькі на ключы, статуэткі, паштоўкі, фотаальбомы. Плзеньскі піўны бровар, сярэднявечны замак у Кралеўцы, Прага. Ня быўшы аніколі тамака, я нібыта добра ведаю той край, і мне ён любы.

«Мы цебя любяша». Гэтай фразай скончаўся дарчы надпіс на фотаздымку, на якім некалькі афіцэраў стаялі вакол сям'і старога камуніста. Як можна было зразумець, пісала маладая жанчына, напэўна тая, што на здымку. Маці яе была расейка, яна ўжо памерла, а бацька чэх. Вось чаму яна добра ставіцца да нашай арміі і ўдзячная ёй. Зьмест напісанага мне запомніўся, а гэтую фразу ведаю наогул даслоўна. «Мы цебя любяша». З чэскай мовай мы не маглі быць знаёмыя, а таму, я ва ўсякім разе, прынялі ўсё за чыстую манету. Аднойчы аднак я пачуў, як мама тлумачыла суседцы, што на яе думку гэты «чэскі» запіс вымысьліў адзін са знаёмцаў-афіцэраў, дасьціпнік і балбатун. Можа, гэта яна ад рэўнасьці казала? Ня ведаю.

Сярод памятак тых дзён ёсьць і здымак, дзе перад брызентавым намётам стаяць побач бацька з прыяцелем. У папругах і галіфэ, з каскамі на галовах і з аўтаматамі за плячыма. Гэты здымак я калісьці даўней забраў быў сабе. Я тады нават нібыта марыў стаць вайскоўцам. Але ня стаў.

Яшчэ дома захавалася кружэлка на сорак пяць абаротаў — «саракапятка». На ёй запісаныя дзьве песьні. «Очы чорныя» ды «Уздоўж па вуліцы мяцеліца мяце». На чэскай мове. Нам яна калісьці вельмі падабалася. Але мы штосьці даўнавата ўжо яе ня слухалі. Зрэшты, я нячаста цяпер бываю ў бацькоў, а сам бацька, можа, і забыўся на яе існаваньне.

**Сяргей Астраўцоў.**

Эдгар По

# УЛЯЛЮМ

Неба шэрым рызьзём па-сірочы
Навісала над лісьцем сухім —
Над пакурчаным лісьцем сухім:
Быў Кастрычнік, тужлівы і змрочны,
У няласкавым годзе маім:
Слаўся золкі туман нездароўчы,
Сеяў жудасьць у лесе глухім —
Поўз ад возера Обэра ноччу
Па гушчарніку Віра глухім.

Тут, сярод кіпарысаў магутных,
Я аднойчы з Душою блукаў —
Між Тытанаў з Псыхеяй блукаў.
Я тады, як паток каламутны,
Палкім сэрцам бурліў, клекатаў
І з жаролаў вулканаў раскутых
У край сьцюдзёны на Полюс сьцякаў—
Па адхонах вулканаў раскутых
У край бязьлюдны на Полюс сьцякаў.

Мы хаваліся ў словах сірочых,
Як у выстылым лісьці сухім —
У пакурчаным лісьці сухім;
І хаця быў Кастрычнік прарочы
У бязьлітасным годзе маім
(Ноч Начэй узышла над усім!) —
Мы забылі, што гэтаю ноччу
У прыстанішчы зданяў глухім,
Каля возера Обэра ноччу
Вір блукае па лесе глухім.

А тым часам на ранак патрохі
Павярнуў небазорны цалік,
Прыйсьця ранку пачаўшы адлік,
І ў канцы нашай мглістай дарогі
У расплывістай далечы ўзьнік
І, нібыта паўмесяц двурогі,
Таямніча зазьзяў маладзік —
Як Астарты паўмесяц двурогі,
Чарадзейны зазьзяў маладзік.

І сказаў я: «Астарта аблічам
У сатканай з уздыхаў начы
Не ўступае Дыяне нічым.
Яна ўсе нашы сьлёзы падлічыць,
Праз уздыхаў эфір летучы
За сузор'ем Ільва таямнічым.
Яе цёплыя вочы ўначы,
Яе чулыя вочы ўначы
Зіхацяць і ў Нябёсы нас клічуць,
Дзе мы знойдзем нарэшце спачын —
Там, у Леце, за Львом ваяўнічым
Знойдзем мы забыцьцё і спачын.

Ды сказала Псыхея: «Ня веру
Бледнай зорцы, што ў небе ўстае —
Здраднай зорцы, што там устае:
Ах, ня стой жа! Ах, пойдзем наперад!
Яе бляск забыцьця не дае!»
Так Псыхея сказала і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —
Спалатнела ад жаху і ў шэры
Прах занурыла крылы свае —
Белапёрыя крылы свае.



Адказаў я: «Твой страх — недарэчны:
Дрогкай зоркі ня маніць сьвятло!
Акунемся ў жывое сьвятло!
Гэта зьзяньне Сівіліна сьведчыць,
Што ўначы Спадзяваньне ўзышло —
Ува ўсёй Прыгажосьці ўзышло! —
Прывядзе бляск Астарты бясспрэчна
Нас у неба, што днесь пачало —
Ах, даверыцца можна бясспрэчна,
Каб у неба нас зьзяньне вяло,
Дзе ўначы спадзяваньне ўзышло».

Гэтак я супакойваў Псыхею,
Каб разьвеяць смугу яе дум,
Яе горкіх і роспачных дум,
Як упёрлася раптам алея
У склеп замшэлы, адкуль веяў сум —
Невыносная жальба і сум,
Мовіў я: «Хто ў тым склепе гібее,
Апавіты ў жалобу і сум?»
Адказала яна: «Улялюм! —
Там магіла тваёй Улялюм!»

Сэрца жалем зайшлося сірочым
І пакрылася лісьцем сухім —
Мёртвым, скурчаным лісьцем сухім:
Год назад у Кастрычніку змрочным,
Год таму перад склепам нямым
Я ўжо плакаў над горам сваім —
Я ўжо плакаў у змроку глухім
Над няўцешным адчаем сваім!
Ах, якім чараваньнем благім
Зноў сюды я заваблены ноччу,
Каб пакутваць у змроку глухім —
Каля возера Обэра ноччу
У прыстанішчы Віра глухім?

І ў сьлязах мы сказалі абое:
«Ах, няўжо духі дрэў і вады —
Духі чулыя дрэў і вады —
Каб ня даць нам сустрэцца з журбою,
Не хацелі пускаць нас сюды —
Да жудлівага склепу сюды —
І наслалі сваёй варажбою
Зь пекла зорку граха і бяды —
Зь нетраў пекла сваёй варажбою
Зіхатлівую зорку бяды?»

*Пераклад з ангельскай А.М.*

бабулі наконт яе пахаваньня, і што ён зрабіў з тымі паштовачкамі з Бэрмудаў, — усё.

— Ну і што?

— Нічога. Па-першае, доктар назваў чыстым злачынствам тое, што яго так хутка выпісалі са шпіталю. Па-другое, ён папярэдзіў, што, магчыма, Сімор цалкам страціць кантроль. Так-так.

— Тут, у гатэлі, ёсьць псіхіятар.

— Хто? Як яго прозьвішча?

— Ня памятаю. Здаецца, Рызэр. Кажуць, добры доктар.

— Ніколі ня чула пра яго.

— Нягледзячы на гэта, кажуць, што ён добры доктар.

— Мюрыэль! Ня трэба так! Мы вельмі хваляваліся за цябе. Бацька нават хацеў учора даць тэлеграму, каб ты вярталася дадо...

— Мама, я нікуды адсюль не паеду. Так што супакойся.

— Мюрыэль, доктар Сівецкі сапраўды сказаў, што Сімор можа цалкам страціць кантр...

— Я толькі прыехала, мама. Гэта першы адпачынак за колькі гадоў, і я не зьбіраюся адразу ж пакаваць рэчы й ехаць дадому.

— Скажы, а ты размаўляла з тым псіхіятрам?

— Так, крыху, — адказала кабета.

— Што ён сказаў? Дзе быў Сімор, калі вы гаманілі?

— Граў на клявіры. Ён грае на ім абодва вечары, што мы тут.

— Добра, а што ён сказаў?

— Нічога асаблівага. Я сядзела побач, мы гулялі ў бінго, і ён спытаў, ці ня мой гэта муж грае ў суседнім пакоі. А потым спытаў, ці не хварэў Сімор апошнім часам. Тады я сказала...

— Чаму ён гэта спытаў?

— Ня ведаю, мама. Магчыма, таму, што Сімор такі нямоглы й бледны, — адказала дачка. — Пасьля бінго доктар і ягоная жонка запрасілі мяне выпіць разам. Яна — проста гаргара. Памятаеш тую жахлівую вечаровую сукенку, што мы бачылі ў Бонвітавай вітрыне? Ты яшчэ сказала, што гэта на танюткую...

— Зялёную?

— Так. Яна ў ёй і красавалася. З усімі сваімі сьцёгнамі! Яна ўрэшце давяла мяне, распытваючы, ці не сваяк Сімор Сузане Глас, што мае краму на Мэдзісан-авеню — жаночыя каптурыкі.

— Дык што табе сказаў доктар?

— Я ж казала, мы былі ў бары. А там такі шум...

— А ён не казаў табе, што Сімор можа што-небудзь вычварыць? Ты разумееш, пра што я?

— Не, не казаў. Яму трэба болей ведаць пра чалавека, мама. Пра дзяцінства і ўсё такое...

— Як ваш нумар?

— Нішто сабе. Хоць мы й не змаглі атрымаць той нумар, дзе жылі да вайны. Толькі вось публіка сёлета проста жах. Пaглядзела б ты, хто сядзіць з намі ў вабед. Выглядаюць, быццам прыехалі сюды на грузавіку.

— Ну, так цяпер паўсюль. Як твая спаднічка?

— *Задоўгая. Я ж казала табе,* што яна будзе задоўгая.

— Мюрыэль, мяне ўсё ж вельмі непакоіць, ці ў цябе ўсё добра?

— Але, мама. У соты раз табе кажу.

— І ты ня хочаш вярнуцца дадому?

— Не, мама.

— Калі я падумаю, як ты чакала яго ўсю вайну, а цяпер...

— Мама, — сказала дачка. — Давай лепей скончым. Зараз прыйдзе Сімор.

— А дзе ён?

— На пляжы.

— На пляжы? Адзін? Як ён сябе там паводзіць?

— Мама, ты кажаш пра яго, нібы пра нейкага маньяка...

— Я нічога такога не казала, Мюрыэль.

— Але выходзіць так. Ён проста ляжыць там на пяску. Нават не здымае купальнага халата.

— Не здымае купальнага халата? Але чаму?

— Ня ведаю. Можа таму, што такі бледны.

— Божухна, яму *патрэбнае* сонца. І ты ня можаш яго прымусіць?

— Ты ж ведаеш Сімора, — сказала дачка. — Ён кажа, што ня хоча, каб усялякія ідыёты выгалялі вочы на ягоную татуіроўку.

— Але ж у яго няма ніякай татуіроўкі! Мо зрабіў у войску?

— Не, мама, не, даражэнькая, — дачка паднялася. — Можа, я табе заўтра затэлефаную?

— Мюрыэль, паслухай мяне ўважліва. Як толькі ён зробіць што-небудзь... ці скажа... ты ведаеш, пра што я, — пазвані мне адразу, ты чуеш?

— Мама, я баюся Сімора.

— Мюрыэль, абяцай мне.

— Добра, абяцаю. Пакуль, мама, — сказала дачка. — Прывітаньне тату, — яна павесіла трубку.

* * *

— Вунь Мор Глас, — сказала Сібіла Карпэнтэр, якая жыла ў гатэлі разам са сваёй маці. Ты бачыш Мора Гласа?

— Котачка, перастань казаць глупствы. Інакш твая мамуля зусім ашалее. Не круціся, калі ласка.

Місіс Карпэнтэр націрала крэмам худую з пяшчотнымі крыльцамі лапатак Сібіліну сьпінку. Сібіла, хістаючыся, сядзела на вялізным, добра надзьмутым пляжным мячы, тварам да акіяну. На ёй быў канарэйкава-жоўты купальнік, бязь верхняй часткі якога ў бліжэйшыя дзевяць-дзесяць гадоў яна магла цудоўна абыйсьціся.

— А дзе Мор Глас? — спытала Сібіла.

Місіс Карпэнтэр уздыхнула.

— Добра, — *сказала яна* й закруціла корак на флаконе з крэмам. — Можаш пагуляць, котачка. А твая мамуля пойдзе ў гатэль і вып'е кілішак марціні зь міс Хабэль. А табе аліўку прынясе. Сібіла шпарка дабегла да вады й пайшла берагам да Рыбацкага павільёну. Неўзабаве яна была ўжо далёка ад пляжу.

*(Працяг на стар.14)*

баёў вугорскіх «гэбістаў», якія стралялі ў братоў.

— Вот это правильно! — кажа Саша.

— Да, — пагаджаецца спадар Пал. — Все они жертвы коммунизма.

У нас вольны час, і, калі ня йсьці на рынак, можна ўдосталь пагуляць на самоце па Пэшце.

Прыдунайскія кварталы вельмі нагадваюць Парыж, які мы бачылі ў францускіх фільмах. У падземным пераходзе на вуліцы Ракацы на раскладным крэсьле сядзіць мурын. Ён пад гітару сьпявае пангельску нешта мэлянхалічнае й непрыхільна пазірае на белага жабрака, што ўладкаваўся на тым баку пераходу. Ля мурынавых ног абцёрханы брунатны капялюш з прыладжанай чырвона-белазялёнай стужачкай. Штораз, калі туды падае колькі форынтаў, ільсьняна-чорны мурынаў твар асьвятляе мацїцовая ўсьмешка.

Вылузнуўшыся зь невялікага збою слухачоў, нейкі заджынсаваны чалавек ляпае мурына па плячы, і я чую «общепонятный язык».

— Хороший ты мужик, да дать тебе нечего.

— А ты х...вый мужик, — амаль без акцэнту адказвае мурын. — Мог бы форинтов десять и отстегнуть.

Збой з павагаю глядзіць на белага чалавека, што ўмее па-негрыцянску.

У двухзоркавым гатэлі «Вена», што дае нам прыстанак, аповяд пра мурына не выклікае асаблівае цікавасьці. У цэнтры ўвагі выпадак двух нашых спадарожнікаў у начны бар на апошнім паверсе гатэля, дзе высьветлілася, што жанчына каштуе там 3 тысячы форынтаў, прычым не за ноч, а за гадзіну.

— Саша, а табе твая кантора на баб грошы выпісвае? — цікавіцца нехта.

Стукач Саша нядобра ўсьміхаецца, і мне прыгадваецца чутая ад знаёмага марака гісторыя пра тое, як яго злавілі ў дацкім публічным доме. У самую адказную хвіліну мой знаёмы пачуў за дзьвярыма: «Товарищ Горелик, вы здесь?»

Мне чамусьці робіцца шкада й марака, і самога сябе, і мурына, што сьпявае на вуліцы Ракацы. Я ўспамінаю, да каго той мурын падобны — да чарнаскурага студэнта Белдзяржунівэрсытэту, які жыў у нашым інтэрнаце разам з двума ўятнамцамі й штодня — апоўначы й а шостай раніцы — змушаў іх стоячы слухаць гімн СССР.

*Союз нерушимый республик свободных*
*Сплотила навеки великая Русь...*

Як жа там, дарэчы, вырашыўся лёс Саюзу на рэфэрэндуме, які мы мусілі — хто вымушана, а хто й не — байкатаваць? Перад вячэраю пытаемся пра гэта ў гіда.

Пачуўшы папярэднія вынікі рэфэрэндуму, Саша, а зь ім яшчэ зь дзесятак саўкоў пляскаюць у ладкі. Мы — за Саюз. Мы другой такой страны не знаем...

Апошні перад вяртаньнем вугорскі горад Эгер. Неверагодная чысьціня й дагледжанасьць вуліц, жылых будынкаў, сярэднявечнае фартэцы й храмаў. Колькі гадоў таму ў горадзе памерла апошняя праваслаўная, але праваслаўны сабор з гэтае прычыны чамусьці не пературарылі ў склад мінэральных угнаеньняў, і ў гадавыя сьвяты там па-ранейшаму служыць сэрбскі архіепіскап з Будапэшту.

На вуліцах такога гораду пачуваесься гэтаксама надзейна і ўтульна, як у сваёй хаце. Такімі былі б нашыя Горадня ці Нясьвіж, каб не бальшавікі ды іншыя верныя ленінцы. Былыя эгерскія рэзыдэнцыі іхніх вугорскіх паплечнікаў — будынкі колішніх гарадзкога ды абласнога камітэтаў кадараўскае партыі — здаюцца ў арэнду, але ўжо даўнавата стаяць упусьце. Мусіць, арандатары чакаюць, пакуль ня выветрыцца стары дух.

У часе экскурсіі спадар Пал прыгадвае сяміградзкага ваяводу мадзяра Сьцяпана Батуру (*Штэфан Батары*), *што быў абраны каралём* Польшчы й Вялікім князем Літоўскім. Абсалютная большасьць маіх спадарожнікаў чула пра пераможцу над Іванам Жахлівым і вызвольніка беларусаў ад маскоўскае няволі ня больш, чым пра апошняга караля Інкаў.

— Почему он сказал, что это наш король? — неўразумела пытаецца адна турыстка. — У нас ведь цари были, а не короли.

Аказваецца, наш гід ведае пра беларусаў трохі болей за сярэдняга вугорца. У прыватнасьці, чуў, што, дзякуючы роднай савецкай уладзе, на Беларусі не засталося беларускіх школаў. Як жа з такімі школамі цяпер, пасьля перабудовы?

— У сельскай меснасци ищо коя-гдзе сахранилися, но вуобщим-та ўсё эта атмираит, — бадзёра адказвае жыхарка беларускае сталіцы, не разумеючы ні сутнасьці, ні спачувальнае афарбоўкі пытаньня спадара Пала.

Словы суайчыньніцы нагадваюць: хутка дамоў, туды, дзе «ўсё атмираит».

Тургрупа прасьпявала на разьвітальнай вячэры «Подмосковные вечера» ды іншыя задушэўныя расейскія песьні. За вокнамі — апошнія кілямэтры вугорскае зямлі. «Божа, як востра ім не хапае рубэройду!» — у роспачы думаю я, пазіраючы на крытыя дахоўкаю дамы, хлявы, курнікі й нават сабачыя будкі.

Усьмешка вугорскага памежніка, ягоныя «здравствуйте», "до свидания" ды іншыя эўрапейскія штучкі выклікаюць у нас амаль што абурэньне. Мы — патрыёты. Мы заміласаваныя пазіраем на савецкага хлопца зь зялёнымі пагонамі, які не ўсьміхаецца й не дазваляе сабе розных там сантымэнтаў накшталт «до свидания».

— Давай! — загадвае ён нашаму кіроўцу, і мы пераяжджаем ужо ніштавата пасунутую на ўсход мяжу сацыялістычнага лягеру.

На ўваходах у залю мытнага агляду — папярэджаньні «Проход держать открытым!» Да кожнага нечая руплівая рука акуратна дапісала: «задний».

Ужо ў самой назве памежнага савецкага гарадка Чоп чуваць нешта роднае, «чрезвычайное» — ЧОН, ЧК, ЧП...

Якія да болю свае — хоць прытулі іх да грудзей — шыльды й аб'явы на «общепонятном»: «Комендатура», «Милиция», «Торговля только по талонам», «Туалет не работает», «Имя и дело Ленина будут жить в веках»... Як звыкла й жадана ўштукоўваецца ў засьмечаны прывакзальны краявід і сам абседжаны галубамі ленін. Яшчэ адзін падфарбаваны золатам ленін схаваўся ад дэструктыўных галубоў у вакзальную пачакальню. Ля ног ільліча трое пасажыраў сьцелюць газэціну з фотаздымкам Гарбачова, крояць на ёй сала і, апасьліва аглядаючыся на бакі, дастаюць кантовую шклянку.

Я ўглядаюся ў дарагі зь дзяцінства, лагодны й мудры твар правадыра. Правадыр, сарамліва адвёўшы вочы ад пляшкі «Гуцульскай» на газэціне, празорліва глядзіць удалеч, на шыльдачку «Ресторан закрыт нет воды». Мне здаецца, ягоныя вусны шэпчуць нешта геніяльнае:

— Как нам реорганизовать Рабкрин?

— Социализм — это учет...

Што да гэтага ленінскага запавету, дык у Чопе поўны парадак. Палова крамаў зачыненая на пераўлік, але, мусіць, хутка адчыніцца, бо выстаўлены ў вітрынах асартымэнт сьведчыць, што пераўлік можна правесьці імгненна.

Мэмарыяльная шыльда на вакзале паведамляе, што ў Чопе жывуць людзі розных нацыянальнасьцяў, аб'яднаныя адной велічнай справай — будаўніцтвам камунізму. Шыльду, на добры лад, трэ было б прадубляваць на замежных мовах, каб іншаземцы таксама зразумелі, зь якой прычыны зачыненыя абедзьве вакзальныя прыбіральні. (Трэба меркаваць, што ў камунізьме прыбіральні ўжо нікому не спатрэбяцца.)

Тым часам на вакзале й вакол нэрвова пахаджаюць колькі дзесяткаў нашых і замежных грамадзянаў. Людзі савецкага гарту хутка знаходзяць выйсьце — хто заглыбляецца ў сквэрык, хто хаваецца за цягнік або плішчыцца ў прыватны сэктар.

Бездакорна адзеты сівы іншаземец з пакутаю на твары адважваецца тарганупь дзьверы зачыненае на рамонт прыбіральні. Установа залітая сьмярдзючаю жыжкай, сярод якой сям-там тырчаць цагліны. У госьця нашае краіны хапае змогі толькі на два скачкі. Не дацягнуўшы да трэйцяе цагліны, ён ступае на дно і ў роспачы падцягвае пашытыя дзе-небудзь у Парыжы ці ў Гамбургу нагавіцы. Але тут яму ня Монтэ-Карла. Жыжкі — па костачку, і белыя іншаземцавыя шкарпэткі ўмомант набываюць менш кідкі колер.

У вітрыне зачыненай на пераўлік крамы лётае верабей. За шклом газэтнага шапіка — нумар ці то маскоўскай, ці то яшчэ нейкай такой самай «правды» з буйным загалоўкам: «Народ сказал Союзу „да"! Народ сказал „да" социалистическому выбору».

Мне хочацца паглядзець на таго, хто прысягае ў вернасьці сацыялістычнаму выбару — толькі каб ён паўтарыў гэта не з тэлеэкрану, а з цаглінак у сьмярдзючай жыжцы.

На пэроне, апусьціўшы голаў, брыдзе сівы іншаземец з мокрымі нагамі. Над вакзальным будынкам лёзунг: «Да здравствует марксизм-ленинизм — вечно живое, революционное интернациональное учение!»

На твары ўгосьця нашай краіны — пакора.

Але яму ёсьць куды вярнуцца.

А мы ўжо вярнуліся.

*Будапэшт — Менск*

*Сакавік 1991.*

— Так, вядома люблю, — адказаў малады чалавек. — А што мне ў ёй асабліва падабаецца, дык гэта тое, што *яна не чапае маленькіх сабачак* у холе гатэля. Напрыклад, маленькага бульдожку тае пані з Канады. Ты не ўяўляеш сабе, але некаторым дзяўчынкам падабаецца торкаць у гэтага сабачку палкай. А Шарон ніколі так ня робіць. Яна заўсёды добрая й прыязная. За гэта я яе й люблю.

Сібіла маўчала.

— А я люблю жаваць сьвечкі, — нарэшце сказала яна.

— А хто ня любіць? — сказаў малады чалавек, кранаючы нагой ваду. — Вох! Халодная. — Ён паклаў на ваду гумовы матрац. — Пачакай, Сібіла, давай зойдзем крыху далей.

Яны йшлі, пакуль вада не дасягнула Сібіле да пояса. Тады малады чалавек узяў яе на рукі й паклаў на матрац.

— Толькі не адпускай мяне, — загадала дзяўчынка. — Трымай мацней!

— Прабачце, міс Карпэнтэр, я ведаю сваю справу, — сказаў малады чалавек. — Вы лепей *глядзіце ўважліва, можа ўбачыце бананавых рыбак*. Цяпер якраз надыйшоў час бананавых рыбак.

— Я іх ня бачу, — сказала Сібіла.

— Ну, вядома. Гэта вельмі дзіўныя й адметныя рыбкі. — Ён рушыў з матрацам наперад. Вада яшчэ не дайшла яму да грудзей. — І жыцьцё ў іх вельмі трагічнае. Ведаеш, што яны робяць, Сібіла?

Дзяўчынка адмоўна захітала галавой.

— Дык вось, яны заплываюць у пячору, дзе *ляжыць шмат, шмат бананаў*. З выгляду дык гэта самыя звычайныя рыбкі. Але як толькі яны трапляюць да бананаў, пачынаюць паводзіць сябе па-сьвінячы. Я ведаю адну рыбку, якая заплыла ў пячору й зьела там цэлых семдзесят восем бананаў. — Ён пасунуў матрац зь дзяўчынкай далей у мора. — Натуральна, іх пасьля гэтага так разносіць, што вылезьці зь пячоры яны ўжо ня могуць. Не пралазяць у адтуліну.

— Ня так далёка, — папрасіла Сібіла. — І што зь імі пасьля?

— Ты маеш на ўвазе пасьля таго, як яны, зьеўшы столькі бананаў, ня могуць вылезьці зь пячоры?

— Але, — сказала дзяўчынка.

— Мне прыкра казаць табе гэта, Сібіла. Яны паміраюць.

— Чаму?

— У іх пачынаецца бананавая ліхаманка. А гэта жахлівая хвароба.

— Глядзі, хваля, — занепакоілася дзяўчынка.

— А мы яе не *заўважым, — сказаў малады чалавек*. — Будзьма вышэй за яе. — Ён зьлёгку прыціснуў дзяўчынку да матраца. Той узьнёсься на самы верх хвалі. Вада крыху замачыла бялёсыя Сібіліны валасы, аднак у яе віскаце чулася захапленьне.

Калі матрац выраўняўся, яна адвяла з вачэй пасмачку валасоў і заявіла:

— А я бачыла яе.

— Каго бачыла, дзіцятка?

— Бананавую рыбку.

— Ня можа быць! — *сказаў малады чалавек*. — А што было ў яе ў роце? Бананы?

— Але, — сказала Сібіла. — Шэсьць.

Малады чалавек нечакана пацалаваў мокрую Сібіліну пятку.

— Вой! — дзяўчынка павярнула галоўку.

— Вось табе й вой. Прыехалі. Ці паненка задаволеная?

— Не!

— Прабачце, калі ласка, — сказаў малады чалавек і штурхануў матрац да берага. Калі Сібіла саскочыла, ён узяў матрац пад паху.

— Пакуль, — крыкнула Сібіла і, ні трохі не сумуючы, пабегла да гатэля.

* * *

Малады чалавек апрануў халат, шчыльна захінуў адвароты й запхнуў ручнік у кішэню. Ён падабраў сьлізкі нязграбны матрац і пацягнуўся па гарачым сухім пяску да гатэля.

У цокальным паверсе, праз які дырэкцыя прасіла заходзіць пляжнікаў у гатэль, кабета з цынкавай мазьзю на носе ўвайшла ў ліфт разам зь ім.

— Я бачу, вы глядзіце на мае ногі, — сказаў ён, калі ліфт скрануўся.

— Прабачце, не зразумела вас.

— Я сказаў, што вы глядзіце на мае ногі.

— Прабачце... Я глядзела на падлогу, — сказа*ла кабета й павярнулася* тварам да дзьвярэй.

— Калі вам падабаецца глядзець на мае ногі, так і кажыце, — сказаў малады чалавек. — Толькі ня трэба гэтага заўсёднага ашуканства.

— Выпусьціце мяне, калі ласка, — пасьпешліва сказала кабета дзяўчыне, што вяла ліфт. Дзьверы расчыніліся, і кабета выйшла, не азірнуўшыся.

— У мяне дзьве звычайныя нагі, і я ня бачу ніякай прычыны, каб нехта таропіўся на іх, — сказаў малады чалавек. — Пяты, калі ласка.

Ён выцягнуў з кішэні халата ключы ад свайго нумару.

Выйшаўшы на пятым паверсе, ён прайшоў праз хол і адамкнуў 507-ы нумар. У пакойчыку пахла скуранымі валізкамі й лякам для пазногцяў.

Ён паглядзеў на кабету, што спала на адным ложку. Потым *падыйшоў да валізкі, адчыніў яе* і з-пад стосу споднягa выцягнуў аўтаматычны пісталет калібра 7.65. Ён дастаў магазін, агледзеў яго, зноў усадзіў на мейсца. Загнаў патрон. Пасьля гэтага перайшоў да незанятага ложка, сеў, паглядзеў на маладую кабету, узьвёў курок і паслаў сабе кулю ў правую скронь.

Ёсьць у вас, як і ў іншых, сьвятыня.
Не давайце сьвятыню псам!

*Ул. Караткевіч.*



*Здымак Алеся Крыштановіча*

## ПАДПІСКА

*Наша Ніва* — беларуская газэта для Вас і Вашых сяброў. Не забудзьцеся павіншаваць Вашых сяброў з выхадам аднoўленае НН.

Магчыма, Вашыя сябры спытаюцца, як падпісацца на НН? Гэта проста й непрымусова. Пакуль газэта выходзіць нерэгулярна, пакуль нестабільны кошт нумара, умовы падпіскі такія.

Перашліце адвольную суму грошай на адрас: 220131, Менск, а/с 229, Чубрык К.М. Калі Вы атрымаеце нумароў на гэтую суму, мы паведамім Вам, што неабходна працягнуць падпіску. Вось і ўсё.

Падпіска на НН — добры падарунак з нагоды любога сьвята. Калі Вы ня ведаеце, што падараваць сябру, дзяўчыне, сваякам, настаўніку ці вучню, — падпішыце для іх *Нашу Ніву.* Гэта будзе прыемны сюрпрыз.

Дарэчы, калі Вы аформіце дзьве падпіскі на нашу газэту — агульны кошт іх будзе зьменшаны для Вас на 10%. А калі Вы надумаецеся выпісаць тры асобнікі, мы зьменшым кошт на 25%. Калі ж Вы аформіце больш за тры падпіскі — усім сваім знаёмым — мы будзем дасылаць Вам асобнікі ўсяго за 50%.

*Наша Ніва* — неблагое чытво. *Наша Ніва* гуртуе сяброў. Вы можаце самі стварыць суполку чытачоў НН, і тады мы распавядзем пра Вас на старонках газэты.

Памятайце — падпіска на НН — гэта і сёе-тое апроч НН. А некалькі падпісак на НН — гэта старая беларуская традыцыя, заснаваная яшчэ ў пачатку нашага стагодзьдзя.

## Наша Ніва *друкуе:*

— карысную й цікавую інфармацыю адусюль, пра ўсё і для ўсіх,
— допісы чытачоў пра жыцьцё-быцьцё,
— лепшыя ўзоры клясычнае ды сучаснае літаратуры,
— новыя думкі, эўрыстычныя ідэі,
— парады, аб'явы, рэкляму ды шмат чаго іншага.

### Паштовая скрынка

**Юрасю П-ву з Магілеву.** Кажуць, беларусы — нацыя паэтаў. І самы першы допіс у *Нашу Ніву,* які мы атрымалі, — Ваш верш — тое пацьвярджае. Мусіць, вершы будуць складаць значную частку нашае пошты. Мусіць, шмат чаго з тых вершаў мы надрукуем. Але гэтым разам верш слабаваты, бо складаецца з адных заклікаў. Лепш напішыце нам пра сваё жыцьцё — што ў Вас цікавага робіцца, што чуваць.

**Р.Сіл-чык зь Менску.** Вы дасылаеце вершы па-расейску, а жадаеце, каб яны былі надрукаваныя «на роднай беларускай мове». Так не бывае.

**Усім,** хто даслаў нам зычэньні й прапановы, — вялікі дзякуй.

**Віленская беларуская грамада, С.Дуж-Душэўскі, В.Стэх шчыра дзякуюць амэрыканскім беларусам А.Сільвановічу, А.Сацэвічу, А.Шукелайцю, Б.Даніловічу, С.Гутырчыку за спрыяньне й дапамогу ў працы.**







## Жарты



Ф.Багушэвіч вельмі любіў зброю. Сваякі ды знаёмцы, ведаючы пра гэта, заўсёды дарылі яму то пісталеты, то вінтоўку, то набоі...

Але была ў Багушэвіча самая ўлюбёная стрэльба. І позьнімі вечарамі, калі ўсе ў доме лягалі спаць, ён ціхенька падымаўся па сходах на падстрэшша, выцягваў са схову сваю ўлюбёнку, прытуляўся да яе шчакой... Скупая мужчынская сьляза апякала твар, і перасохлыя пэтавы вусны пяшчотна шапталі:

— Дудка мая...

## Сёньня гэта забава, а заўтра, магчыма, — эканамічная праблема.

Калі Вашыя продкі — шляхецкага роду, і Вы хочаце мець выяву свайго гербу, генэалягічную схему ды іншыя дакуманты пра свой род — мы дапаможам Вам.

Успомніце хоць бы некалькі імёнаў Вашых продкаў (дзядоў ці прадзедаў), мяйсцовасьць іхняга паходжаньня ці зямельных уладаньняў, назву герба.

Успомніце і разам з дакладным напісаньнем Вашага прозьвішча дашліце нам, на адрас рэдакцыі ў Вільні.

Вы абавязкова атрымаеце адказ.

Пры наяўнасьці паштовага пераказу на 25 рублёў архівіст зараз пачне пошук.

Калі Ваш радавод зацікавіць рэдакцыю й Вы самі ня будзеце супраць, мы надрукуем матэрыялы ў газэце.

У іншым выпадку за дадатковую аплату мы дашлем Вам матэрыялы пэрсанальна.




**Наша Ніва**
**Naša Niva**
Беларуская газэта
заснаваная ў 1906 г., аднoўленая ў 1991 г.

**Рэдакцыйная Рада**
**Выдавец Павал Жук**
Заснавальнікі: Кардзіс Людвіка (Вільня) і Жук Павал (Менск)
Мастацкае аздабленьне:
**Віктар Аўтушка, Віктар Корзун, Сяргей Харэўскі**

Адрас для допісаў:
232041, Вільня, а/с 2082
Адрас для грашовых пераказаў:
220131, Менск, а/с 229, Чубрык К.М.

Дасланыя рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
Афсэтны друк. Замова 1115
Баранавіцкая ўзбуйнёная друкарня